
Дзень Волі →3

# Ніва


ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Памяці Міколы Гайдука →4-5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3021) Год LIX | Беласток, 6 красавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


У многіх гарадах Польшчы ад Варшавы па Катавіцы і Шчэцін святкавалі ў гэтым годзе Дзень Волі, тобок, 96 гадавіну стварэння першай незалежнай беларускай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. У Беластоку святкаванне адбылося ў поўным з берагамі клубе «Змена клімату». З канцэртам выступіў папулярны бард Зміцер (Тодар) Вайцюшкевіч. Беларуская моладзь ужо пры ўваходзе прышпіляла ўдзельнікам бел-чырвона-белыя катыльёны. Многія з прыбыўшых прыйшлі на свята са сваімі маленькімі дзецьмі — будучыняй беларушчыны Беласточчыны.



# Беластоцкі Дзень Волі 2014



Сёлета святкаванне Дня Волі ў Беластоку арганізавалі сумесна: Беларускі саюз у Польшчы, «Ніва», Радыё Рацыя, Асацыяцыя АБ-БА, Беларускае гістарычнае таварыства і Беларускае аб'яднанне студэнтаў. У гэтым годзе святкавалі ў Беластоку практычна некалькі дзён. У рамках Дня Волі драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі арганізаваў паказ беларускамоўных «Дзядоў» мінскага незалежнага тэатра «Ч», адслужылі малебен за Беларусь у царкве Агія Сафія і правялі сустрэчу ў «Склепе з культурай» Згуртавання АББА з Віктарам Шведам, у час якой быў паказаны фільм Радка Дамброўскага, прысвечаны гэтаму паэту.

Звычайна ў час беластоцкіх урачыстасцей 25 сакавіка, на зважай заспявалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а сконччылі афіцыйную частку гімнам «Магутны Божа». Вядучы сустрэчу Юрка Ляшчынскі, былы радыёжурналіст, праграмны рэдактар Радыё Рацыя прачытаў зварот Івонкі Сурвілы, пражываючай у Канадзе, старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні. Мы апублікавалі яго ў адным з папярэдніх нумароў «Нівы». Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы ў сваю чаргу звярнуўся да сабраных:

— Памятаць беларусам пра Дзень Волі — акт 25 Сакавіка гэта наш нацыянальны і маральны абавязак. Пра гэты дзень і імкненні продкаў да дзяржаўнага станаўлення не забываліся папярэднія пакаленні і нам выпаў абавязак працягваць запавет бацькоў, стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Калі ўчытацца ў словы старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, дык ясна можам зразумець і адчуць, пад якой пагрозай сёння знаходзіцца беларуская дзяржаўнасць і наш народ. У выніку шматгадовай, мэтанакіраванай палітыкі русіфікацыі і антыбеларускасці, Аляксандр Лукашэнка прывёў беларускую дзяржаву ў заложнікі імперскіх памкненняў пуцінскай Расеі. Разбураючы беларускае школьніцтва, масмедыі, палітычнае жыццё, навязваючы паўсюдную расейскасць, кіраўнік дзяржавы дае ўсходняму суседу нагоду ў любы момант умешвацца ў справы краіны, спасылаючыся пры тым на „ахову" расейскамоўных грамадзян Рэспублікі Беларусь. Гэта пастка, з якой напэўна не выведзе Беларусі кіраўнік дзяржавы разам са сваімі служкамі. Толькі яднанне ўсіх беларусаў на нацыянальных і дзяржаўных каштоўнасцях з'яўляецца гарантам яе незалежнасці і развіцця беларускасці.

Звярнуў увагу:

— У нас, на Беласточчыне, таксама прачынаюцца дэманы гісторыі. Пасляваенныя злачынцы, забойцы нявінных беларускіх сялян, ізноў вяртаюцца ў грамадскае жыццё і становяцца запальнай іскрай паміж беларусамі і палякамі. Раз'ятрыванне і падбухторванне да міжнацыянальнай спрэчкі можа разліцца значна шырэй за навукова-гістарычную дыскусію. І чаму ж сімвалічны беларускі настаўнік з-пад Нараўкі, які, нягледзячы на ваенны час, хацеў вучыць беларускай мове сваіх родных, аказваецца здраднікам, фашыстам і камуністам, а тыя, якія спалілі нявінных беларускіх жанчын і дзяцей, усхваляюцца як дзяржаўныя патрыёты? Гэтыя праблемы набылі зараз новае дыханне і вельмі турбуюць нас, беларускую меншасць у Польшчы.

Адзначыў прытым:

— Але трэба выразна сказаць, што ў многім вінаватыя мы самі. Шмат лягчэй было б абараняцца ад розных закідаў і развіваць нас як паўнакроўных грамадзян Польшчы, каб умела і поўнасцю карысталіся мы належнымі нам польскімі і еўрапейскімі законамі. Ці ж не агульнасумным з'яўляецца тое, што самаўрадавыя структуры як чорт свянцонай вады баяцца ўвядзення двухмоўных назваў мясцовасцей у сваіх гмінах? Прытым яны самі — войты, бургамістры, старасты, радныя з'яўляюцца сябрамі беларускіх арганізацый і ўвесь час запэўніваюць пра сваю бязмежную адданасць беларускасці, асабліва перад самаўрадавымі выбарамі. Спадзяюся, што следам за Арлянскай гмінай пойдуць і наступныя. Вядома, пераадолець праблемы было б лягчэй, калі б не дэмаграфічнае і эканамічнае становішча нашага рэгіёна. Адміранне гмін і міграцыя з Падляшша — рэчаіснасць, з якой не справіцца толькі самім падляшскім беларусам.

Традыцыйна ўручылі букеты бел-чырвона-белых кветак за заслугі для беларушчыны ў мінулым годзе. З рук Яўгена Вапы атрымалі іх журналістка «Нівы» Ганна Кандрацюк-Свярубская, маладыя акцёры спектакля «Ой, даўно, даўно». Беларускія гісторыі з Падляшша», якіх апошняе прадстаўленне сыгралі на наступны дзень у беластоцкай Тэатральнай акадэміі ды іх апякункі — Барбара Пякарская і Аліна Ваўранюк, а таксама графік Міраслаў Здрайкоўскі. Наша рэдакцыйная калега на наступны дзень атрымала таксама ўзнагароду-сертыфікацыю, прысуджаную Падляшскім фондам рэгіянальнага развіцця ў конкурсе «Жанчыны ў будучыні» ў намінацыі «Узор жанчын» (у рамках «міжнароднай стратэгіі барацьбы з адтокам маладых добра адукаваных жанчын з перыферыйных рэгіёнаў»). Падчас беластоцкага Дня Волі была адзначана «за творчы юбілей 20-годдзя кіравання „Зоркай" у тыднёвіку „Ніва" і шматлікія ў сувязі з гэтым крэатыўныя ініцыятывы ў галіне працы з дзецьмі і моладдзю ў нашым асяроддзі; за рэпарцёрскае апісванне ўсходняй часткі Еўропы на старонках „Нівы" і прасоўванне беларускай тэматыкі ў польскім асяроддзі кніжкай „Беларусь. Любоў і маразм". У сваю чаргу, апекуны тэатральнай групы Аліна Ваўранюк і Барбара Пякарскай ды выканаўцы заняцця ў спектаклі „Ой даўно, даўно" адзначаны за тое, што на працягу апошніх некалькіх гадоў сваю сямейную памяць адважна і балюча раскрылі беларусам Беласточчыны не толькі ў тэатральным кшталце, але і ў кніжных выданнях. А Міраслаў Здрайкоўскі ўзнагароджаны «за цудоўнае мастацка-графічнае афармленне беларускіх выданняў і інтэр'ераў на Беласточчыне: „Ніва", кабінет беларускай мовы ў Бельскім ліцэі, месца памяці ў Райску, кніжныя выданні Дарафея Фіёніка, лемантар для наймалодшых, выдадзены згуртаваннем АБ-БА. Высокая эстэтыка, спалучаная з заўважанай адметнасцю беларусаў Падляшша — гэта тое, чым можам самі і перад іншымі ганарыцца».

Аліна Ваўранюк прызналася пасля цырымоніі, спасылаючыся таксама на спектакль «Ой, даўно, даўно»:

— Гэта адна з самых важных узнагарод, якую я атрымала. Цяжка знайсці дзяцей, якія гавораць на дыялекце. Такога спектакля, як гэты, здаецца, больш не ўдасца паставіць, і не мае сэнсу з іншымі дзецьмі распавядаць гэтыя гісторыі, сямейныя гісторыі маладых людзей, якія прымалі ўдзел у прадстаўленні.

Міраслаў Здрайкоўскі, выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў у Мінску, не змог прысутнічаць на святкаванні ў «Змене клімату». Свой сімвалічны букет узяў на наступны дзень у «Рацыі». «Ніве» сказаў:

— Дзень Волі з'яўляецца таксама святам, якое можа аб'ядноўваць усё наша беларускае асяроддзе на Беласточчыне. Я трактую сваё мастацтва як службу, абавязак для беларускага народа, і гэтае вылучэнне, якое атрымаў з нагоды сёлетняга Дня Волі, пераконвае мяне, што, у гэтых адносінах, я абраў правільны кірунак.

Ганна Кандрацюк-Свярубская, у сваю чаргу, не хавала:

— Я не веру, што гэта ўжо 20 гадоў. Я не адчуваю гэтага. Таму што гэта былі працавітыя і творчыя гады.

Зміцер (Тодар) Вайцюшкевіч прызнаўся, што ад трох гадоў з нагоды Дня Волі піша новыя песні. Заспяваў ён песні з новага альбома «Варанок». Падчас святочнага канцэрта былі балады і патрыятычныя песні, у тым ліку на словы Уладзіміра Някляева і нядаўна памерлага Рыгора Барадуліна. Была і «Я нарадзіўся тут» Лявона Вольскага, які ў Літве толькі што выпусціў свой найноўшы альбом «Грамадазнаўства». Перад канцэртам сказаў:

— Упершыню я праводжу гэтае свята з беларусамі на Беласточчыне. Тут веды аб гэтым святе і ўвага, якая яму прысвячаецца, большыя, чым у Беларусі.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**


9 770546 196000



# На хісткай мяжы

Куба, Паўночная Карэя, Нікарагуа, Сірыя, Венесуэла, Балівія, Арменія, Судан, Зімбабвэ, ну і канешне Расея. Вось кампанія адыёзных дзяржаў з надзвычай сумнеўнай рэпутацыяй, у якую трапіла і наша Беларусь, прагаласаваўшы на Генеральнай Асамблеі ААН фактычна супраць тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны. Кампанія, якая робіць ганьбу нашай Беларусі і яе народу з больш чым тысячагадовай еўрапейскай гісторыяй. Калі галасавалася рэзалюцыя па крымскім пытанні, Масква не дазволіла свайму васалу нават устрымацца, як зрабілі гэта некалькі дзесяткаў іншых, залежных ад расейскай палітыкі і эканомікі дзяржаў. Так Беларусі яскрава паказалі яе месца ў палітычных раскладах. І што б ні казаў кіраўнік дзяржавы РБ, як бы не імкнуўся дэманстраваць свой нейтралітэт у дачыненні да расейска-ўкраінскіх закалотаў, сапраўдная сутнасць выкрываецца менавіта вось такімі галасаваннямі ў міжнародных структурах. І хоць рэзалюцыі гэтыя мала ўплываюць на нешта практычна, але ж яскрава паказваюць наша месца і нашу эфемерную незалежнасць. Сапраўды, што ж асталося ад нашага суверэнітэту? Назва Рэспубліка Беларусь — дык усходнія суседзі па-сутнасці яе так і не прызналі, называючы нас па-ранейшаму на савецкі капыл „Белоруссией". Тытул кіраўніка „прэзідэнт" — дык у той жа расейскай федэрацыі розных прэзідэнтаў не менш дзесятка! Свае грошы і пашпарты — дык іх можна вывесці з абарачэння і памяняць нібы фанцікі, як паказвае досвед Крыма, за нейкі месяц. Усё, больш нічога... Ні войска, ні межаў, ні сваёй культурнай разгалінаванай прасторы, ні фактычнай дзяржаўнасці мовы тытульнай нацыі.

Невыпадкова пасля гэтага сумнага, але зусім не сенсацыйнага факта галасавання ў ААН, цэлы шэраг публіцыстаў і аналітыкаў адгукнуліся трывожнымі артыкуламі, у якіх выказваецца хісткасць пазіцый суверэннай Беларусі і яе кіраўніка. За 20 гадоў свайго кіравання Аляксандр Лукашэнка сапраўды паставіў Беларусь перад рэальнай пагрозай страты незалежнасці. 20 гадоў нас цягнулі назад у Савецкі Саюз і цяпер, асабліва пасля імклівага паглынання Расеяй Крыма, наша суровая рэальнасць — гэта пратэктарат Масквы, поўная ад яе залежнасць. Кіраўнік Беларусі і сам зараз апынуўся ў вельмі цяжкім стане. Думаецца, ён вельмі цяжка асабіста перажыў крах прэзідэнта суседняй Украіны Януковіча. Вось ён, Януковіч, быў — здавалася б — такі ўпэўнены і досыць магутны. І вось яго фактычна няма — застаўся ні то двайнік, ні то цень, ні то прывід, які ўжо нічога не вырашае. Зразумела Лукашэнку і іншае — ніхто яго ў разе пагрозы звонку адхілення ад улады ў Беларусі не абароніць, сілавыя структуры і спецслужбы на баку толькі таго, хто ўсё вырашае. А ўсе гэтыя так званыя міністры, дэпутаты, вертыкальнікі здрадзяць пры першай жа сапраўднай небяспецы.

У каламутнай „саюзнай" вадзе на фоне расейска-ўкраінскіх канфліктаў кіраўнік Беларусі спрабуе і будзе імкнуцца далей вылавіць сваю „рыбку". Трэба ратаваць не толькі сваю пахіснуўшуюся рэпутацыю, але і гаспадарчыя інтарэсы. Думаю, што гэта ў той ці іншай ступені „гаранту" зноў удасца. І тут не пагаджаюся з думкай некаторых палітолагаў, якія лічаць, што Крэмль можа паставіць на іншага чалавека. Пры ўсёй знешняй „ярышлістасці" кіраўніка Беларусі, ніхто на постсавецкай прасторы не праводзіў крамлёўскую палітыку з такой зацятасцю і паслядоўнасцю. Аляксандр Лукашэнка проста незаменны для Масквы, калі ж яна надумаецца яго змяніць на іншага стаўленіка — можа фатальна памыліцца для сябе.

Ёсць і іншы шлях для кіраўніка Беларусі — пачаць працэс грамадзянскага прымірэння. Пад Вялікдзень выпусціць усіх палітвязняў, прымеркаваць да чэмпіянату свету па хакеі дазвол выкарыстоўваць нацыянальную сімволіку, перастаць пераследаваць людзей паводле іх перакананняў, даць сапраўдную прастору беларускай мове. Толькі, думаецца, на гэта сённяшні рэжым у Беларусі няздольны. А таму, наадварот, трэба чакаць далейшага ўзмацнення рэпрэсій, пераследу іншадумцаў і далейшага здушэння ўсяго нацыянальнага. Беларуская супольнасць за 20 гадоў не здолела стварыць альтэрнатыўных форм супраціву і таму зараз, як ніколі ў найноўшай гісторыі, будзе пад пагрозай.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Сцеражыцеся драконаў



Чамусьці ніхто раней не заўважаў сімптомаў захворвання, якое турбуе Украіну. А нават калі і заўважыў, то ён не імкнуўся даць эфектыўныя прэпараты. Ранейшы асацыяцыйны праект Украіны з ЕС быў параўнальны з плацэба — малавартым пры такім стане глыбокага расстрою дзяржавы і ўсяго грамадства. Праўда, што ўкраінская хвароба развінулася ў час зладзейскіх урадаў Януковіча і яго дэмаралізаванай клікі. Сёння, аднак, мы ведаем, хто тузаў за нітачкі гэтых заражаных эгаізмам і здрадай марыянетак. Пуцінская Расія, аслабляючы натуральны ахоўны бар'ер украінскай дзяржавы, заражваючы ўлады агентурнымі вірусамі, разбэшчваючы палітычныя і фінансавыя эліты, абуджаючы мясцовыя сепаратызмы, мела ўжо даўно рэалізаваны, далёка ідучы план поўнай залежнасці ад сябе Украіны. Магчыма, майданавая рэвалюцыя разбурыла гэтую кратовую стратэгію. Бо ж не, пэўна, палітыкі ЕС або ўкраінская парламенцкая апазіцыя. Як гэта ні парадакcальна, страта Крыма можа ўмацаваць ідэю дэмакратыі ва Украіне. Не даю, аднак, галавы, ці пуцінская авантура закончыцца акалечаннем самой дзяржавы. Хоць ідэя дэмакратыі трывала звязвае Украіну з Еўропай, чым з антыдэмакратычнай Расіяй, аднак пуцінскі крот (ці, мабыць, цмок?) не перастае яе падгрызаць. Гаворачы без хітрыкаў: калі ідэя дэмакратыі ва Украіне не атрымаецца, дык поўную катастрофу пацерпіць ідэя дэмакратычнай і аб'яднанай Еўропы. Пераможуць хаос і нацыянальныя эгаізмы, мабыць, таксама рэлігійныя.

А як іх лёгка прызваць, няхай паслужыць наступны прыклад. Адзін святы муж (справа адбываецца ў будыйскай культуры) прысеў і зрабіў тое, што было трэба. І тады яго паслядоўнікі сабраліся ў тым месцы, памечаным святым, і сталі разважаць: ці святы ва ўсім можа выдаліць з кішэчніка нешта іншае, чым святое? Так што, і куча — таксама святая? Жарты ў бок, але да сёння дзейнічаюць дзве рэлігійныя школы; адна з якіх смела трымаецца святасці кучкі, а другая ў святасці ёй адмаўляе. У гісторыі таксама запісаны дзве рэлігійныя войны па гэтай прычыне. Хрысціянства таксама не без граху трох генацыдных войнаў, якія пагклынулі сотні тысяч жыццяў. Некалькі соцень тысяч! Іх прычынай, трэба прызнаць, была коска ў сказе (так, коска!), але гэта ўжо проста даказвае, што няма ў чалавечым свеце рэчаў малых і вялікіх, важных і трывіяльных, таму што кожная з іх можа перасягнуць сваёй веліччу ўсе астатнія, калі ўспрымуць яе ў адпаведным кантэксце. Дастаткова сказаць, што раннехрысціянскім антаганістам гаворка ішла аб пытанне, важнае для іх, ці ў вызнанні веры ў фразе «Я веру ў Айца... Сына...», паміж Айцом і Сынам павінны мецца цесныя злучальнікавыя адносіны «і», ці знак прыпынку, менш строга выказаны коскай. У любым выпадку, спрэчкі па гэтым пытанні былі аднолькава вучонымі, што крывавымі. Але давайце пакінем дылемы хрысціянскіх тэасофаў і вернемся да... кучкі святога мужа. Пасля некалькіх гадоў на яе месцы пабудавана была ступа. Гэта штосьці ў відзе алтара. Але не захавалася яна ў сваім першапачатковым выглядзе. На працягу стагоддзяў шмат раз разбуралі яе і столькі ж раз яе аднаўлялі. У гэты час агонь, які знішчаў рэлігійных антаганістаў быццам бы крыху прытух і, каб расказаць усю праўду, да сённяшняй ступы ходзяць маліцца разам так паслядоўнікі святасці кучкі, як і яе праціўнікі. Можна сказаць, што агнядышны цмок рэлігійнай нянавісці праваліўся пад зямлю. Я сумняваюся, аднак, ці назаўжды. Цмокі-драконы лёгка вывесці з цемры. Розныя драконы, а не толькі тыя, што нарадзіліся з рэлігійных сварак. Габрэйскі анекдот з'яўляецца добрым прыкладам. Калі рабіну сталі мяшаць у святых абмеркаваннях дзеці, што гулялі пад яго акном, высунуўся з яго і ўскліпнуў: «Дзеці, дзеці, вы тут забаўляецеся, а там за ракой цмок паказаўся!» Дзеці, вядома, адразу ж кінуліся на раку, а за імі ўсе жыхары горада. Бачачы гэта, вучоны рэбэ пакінуў святое пісанне і адправіўся колькі сілы за імі. «А куды ж ты прэш, шалёны чалавек! — закрычала за ім жонка. — Ты ж сам выдумаў таго цмока! — Ну, — кінуў ёй праз плячо рэбэ, — але што, калі ён на самой справе паказаўся за ракой?!»

Мараль з гэтага выцякае такая: хоць драконы жывуць толькі ў чалавечым уяўленні, але мяжа паміж рэальнасцю і ўявай больш расплывістая, чым нам здаецца. Таксама і вы сцеражыцеся драконаў!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Таксічныя сувязі

Са з'яўленнем рэальнага мясцовага самакіравання ў Польшчы ў 1990 годзе, калі гміна стала асноўнай адзінкай тэрытарыяльнага дзялення краіны, пачалі развівацца таксама мясцовыя СМІ. Спачатку прэса, пасля электронныя СМІ. Свабода слова стала рэальнасцю і найвялікшым дасягненнем тагачасных дэмакратычных перамен, апрача свабодных выбараў у лакальныя органы ўлады. Мясцовыя СМІ, асабліва прэса, павінны былі быць дыхам на спіне мясцовай улады і гаварыць аб праблемах жыхароў. Ежы Мяноўскі, старшыня агульнапольскага Згуртавання мясцовай прэсы, нядаўна ўспамінаў: «Бясспрэчным фактам з'яўляецца тое, што тая прэса ў пераменах згуляла важную ролю. Сёння мы гаворым пра яе з гонарам, а мясцовыя СМІ маюць пачуццё добра выкананага абавязку ў карысць «малых радзім» і іх жыхароў. Мясцовыя газеты і часопісы з'яўляюцца не толькі адносна верным люстэркам сацыяльнай, палітычнай, культурнай і эканамічнай рэальнасці. Часта яны з'яўляюцца таксама важнымі і аднымі з асноўных — у сувязі з магчымасцю ўздзеяння на грамадства, фармавання настрою, адносін і паводзін людзей — сродкаў сувязі і камунікацыі паміж людзьмі і больш буйных, і больш дробных груп». Адзначыў таксама: «Мясцовая прэса мае свой удзел у будаўніцтве грамадзянскай супольнасці, якая вызначаецца як сацыяльная прастора, якая з'яўляецца крыніцай свабоды для ўсіх відаў форм самаарганізацыі дзейнасці плюралістычнага грамадства, неабходных для забеспячэння яго незалежнасці ад дзяржавы. Тут мясцовыя СМІ становяцца важным інструментам дэмакратыі, якая з'яўляецца стабільнай і моцнай толькі тады, калі яна заснавана на актыўнай, мабільнай і творчай грамадзянскай супольнасці (...). Мясцовая прэса дапамагла грамадзяніну ў прыняцці абгрунтаваных рашэнняў падчас мясцовых выбараў і наглядна даказала яму ягоную рухаючую сілу ў выніку выбарчага акта».

Разам з умацаваннем улады самакіравання ў гмінах некаторыя мясцовыя СМІ пачалі мяняцца, аднак, у рупар улады, галоўным чынам перадаючы інфармацыю пра поспехі гмінных установаў, асабліва бургамістраў і войтаў, і многія з іх, здаецца, пачалі ажыццяўляць тэзіс: «Хто трымае СМІ, той мае поўную ўладу». Гэта прыходзіць адносна лёгка, таму што СМІ часта залежаць ад фінансавай падтрымкі гмін, але — на мой погляд — што яшчэ больш важна: іх босы і журналісты (у многіх выпадках, таксама пісаўшыя бясплатна) былі залежныя ад улады прафесійнымі, сямейнымі і іншымі сувязямі. Часам пачалі яны весці (вядуць) «незалежную» газету, адначасова працуючы ва ўстановах падначаленых лакальным уладам. Акрамя таго, разам з ходам прафесіяналізацыі палітызаваных (па партыйным прызнаку) мясцовых органаў улады і большай палітычнай палярызацыі, мясцовыя ўлады ўсё часцей сталі ўспрымаць СМІ як «свае» — выбарныя агітацыйныя гаджэты. Гэтыя думкі прыходзяць у галаву, калі ў апошнія дні Мікалай Грэсь, дваццацігадовы галоўны рэдактар «Газеты Міхалова», у знак пратэсту супраць цэнзуравання тэкстаў міхалоўскай мэрыяй, адмовіўся ад сваіх абавязкаў, і на самой справе спыніў іх выкананне да восеньскіх мясцовых выбараў. Ад дзесяці гадоў выдае ён газету з фінансавай падтрымкай гміннай адміністрацыі, раней рабіў гэта без іхняй падтрымкі. У агучанай заяве напісаў: «Я адмаўляюся ад абавязкаў галоўнага рэдактара «Газеты Міхалова», паколькі стала яна сімвалам адсутнасці свабоды слова». На яго думку, бургамістр Міхалова Марк Назарка з сакратаром гміны Аннай Дабравольскай (абое выводзяцца з Грамадзянскай платформы) уплываюць на змест газеты: «Шмат артыкулаў з крытыкай таго, што адбываецца ў нашай гміне, не пайшло ў друк. Шмат лістоў ад чытачоў, пахвальных для Марка Назаркі, былі напісаны ў ратушы. Бургамістр пра сябе добра піша, падпісаўшы тэкст, напрыклад, «Галіна». Усё гэта фарс і здзек над журналістыкай. Усхвальванне бурмістра перавысіла здаровыя межы». Бургамістр Назарка меў яму прынесці тэкст з патрабаваннем, каб Грэсь падпісаўся пад ім сваім імем: «Бургамістр выказаў здагадку, што, калі я пад ім не падпішуся, то страчу працу, а майму сыну, Рафалу, які арандуе памяшканне для банкавага агенцтва, будзе так павышана арэндная плата, што яму нявыгадна стане весці бізнес». Бургамістр катэгарычна адмаўляецца ад цэнзуравання і аказвання ціску на «Газету Міхалова» ды сцвярджае, што гэта «ўсяго толькі гульня апазіцыі».

Незалежна ад таго, што адбылося ў апошні час на лініі «Газета Міхалова» — мясцовая мэрыя і што выклікала рашэнне рэдактара Грэся, я не магу пазбавіцца ад уражання, што залежнасці паміж міхалоўскай уладай і лакальным сродкам масавай інфармацыі з'яўляюцца празмерна вялікімі, і сапраўды, як у хваравітым каханні — таксічныя. І гэта не адзінае такое каханне ў падляшскіх гмінах, у тым ліку беларускіх. Ва ўсякім выпадку, ведаеце пра гэта.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# ДЗЕНЬ ВОЛІ ў нашых школах

У белліцэях і белгімназіях у Бельску і Гайнаўцы па-свойму святкуюць Дзень Волі. У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім традыцыяй сталі ўрачыстыя лінейкі, прымеркаваныя да свята. Штогод рыхтуюцца там мастацкія слоўна-музычныя выступленні і гістарычныя матэрыялы аб Беларускай Народнай Рэспубліцы. У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім апошнімі гадамі 25 Сакавіка адзначаецца паводле сваёй схемы. Аднак кожны год мяняюцца вучні ў паасобных класах і таму штогод іншыя першакласнікі ўдзельнічаюць у «Беларускім турніры», іншыя другакласнікі рыхтуюць нацыянальныя стравы, іншыя трэцякласнікі спатыкаюцца з пісьменнікамі, гісторыкамі, журналістамі і дзеячамі культуры. Вучні і настаўнікі згаданых школ удзельнічаюць у цэнтральных святкаваннях Дня Волі ў Беластоку.

## У Гайнаўцы

У белліцэі і белгімназіі над уваходам у актавую залу вісіць бел-чырвона-белы сцяг, які 24 і 25 сакавіка вітаў вучняў, прыбыўшых на святкаванні Дня Волі. У гэтай жа зале пастаянна вісіць герб «Пагоня», а да святкавання ў актавай зале залунаў бел-чырвона-белы сцяг і была выканана адмысловая дэкарацыя з беларускай нацыянальнай сімволікай. Урачыстую атмасферу ўзмацнялі патрыятычныя песні і дэкламацыя такіх жа вершаў. Гайнаўскія белгімназісты наладзілі ўрачыстую лінейку не 25 сакавіка, а напярэдадні. Перад сваімі сябрамі выступілі вучні ІІІ «ц» класа пад кірункам свайго выхаваціеля і настаўніка фізікі Дарка Мусюка ды настаўніцы беларускай мовы Анны Каліноўскай, якім блізкія гісторыя Беларусі і выхаванне моладзі ў патрыятычным духу. Гімназісты дэкламавалі беларускія вершы, слухалі патрыятычныя песні і знаёміліся з падзеямі 1918 года. Гайнаўскія белліцэісты з І «а» класа з дапамогай настаўніцы беларускай мовы Анны Каліноўскай 25 сакавіка арганізавалі святочную лінейку. Вучні выслухалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», дэкламавалі патрыятычныя вершы і паказалі падзеі 96-гадовай даўнасці на беларускіх землях з выкарыстаннем мультымедыйнай тэхнікі. Белліцэісты паглядзелі дакументальны фільм аб Беларускай Народнай Рэспубліцы. З багатай праграмай, са спецыяльна падрыхтаванымі патрыятычнымі песнямі, выступіў школьны калектыў «Знічка», якім апякуецца настаўніца Бажэна Ляўчук. Іх узнёслы спеў на прыгожай беларускай літаратурнай мове перапляўтаўся з дэкламацыяй вершаў. Святочнае спатканне закончылася праспяваннем «Знічкай» гімна «Магутны Божа», які белліцэісты слухалі на зважай.

— Мы з настаўніцай Аннай Каліноўскай доўга рыхтаваліся да выступлення. Трэба святкаваць Дзень Волі, бо гэта таксама нашае свята. Мы з гістарычнымі падзеямі знаёміліся на ўроках беларускай мовы, а тут хацелі стварыць святочны настрой, — сказалі белліцэісткі Уршуля Раманчук, Дамініка Карпюк, Габрыся Міхалоўская і Сандра Палаванюк з І «а» класа.

— Пра падзеі 1918 года і стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі мы гаворым на занятках беларускай мовы. Школьная лінейка гэта падвядзенне вынікаў размоў на ўроках і перш за ўсё ўрачыстае святкаванне. Вучні з ангажаваннем рыхтаваліся да выступаў. Мастацкая частка дазваляе ліцэістам адчуць святочную атмасферу і міла правесці час, — сказала настаўніца беларускай мовы Анна Каліноўская.

## У Бельску-Падляшскім

25 сакавіка белліцэй быў упрыгожаны бел-чырвона-белымі сцягамі. У гімнастычнай зале і на калідорах расклееныя былі плакаты з патрыятычным зместам. Вучні першых класаў сабраліся ў гімнастычнай зале, дзе быў наладжаны «Беларускі турнір». У рамках яго вучні паасобных класаў спявалі гімн школы «Люблю наш край», стараліся адмыслова запрэзентаваць свой клас, дэкламуючы вершы або спяваючы песні. Белліцэісты выступілі таксама на беларускай мове з адмысловымі прадстаўленнямі, стараліся развесяліць сабраных, паказвалі плакаты «Беларусь у маіх вачах». Турнір дазваляе вучням паказаць спартыўныя ўмеласці і вызваліць знутры лішак энергіі. Бельскія і гайнаўскія вучні маюць свядомасць, што святкаванне Дня Волі штогод выпадае на перыяд Вялікага посту і таму не арганізуюць у гэты дзень танцаў. Першакласнікі былі рады, што святкуюць цікава і з гумарам, а калі камісія падвяла вынікі турніру аказалася, што першае месца заняў І «д» клас (ва ўзнагароду вучні пераможца класа на адзін дзень вызваляюцца ад вусных і пісьмовых адказаў). На другім месцы апынуліся белліцэісты з І «а» і «ц» класаў, а трэцяе месца занялі белліцэісты з І «б» класа.


Перад гайнаўскімі белліцэістамі выступілі вучні І «а» класа, а з патрыятычнымі песнямі школьны калектыў «Знічка» (на першым плане)


Бельскія белліцэісты другіх класаў падрыхтавалі мясцовыя стравы і адмыслова іх упрыгожылі



У Бельску-Падляшскім 25 сакавіка перад белгімназістамі цікава выступілі вучні II «ц» класа

На сустрэчу з другакласнікамі прыбылі журналістка «Нівы» і пісьменніца Ганна Кандрацюк і каардынатар Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі «Камунікат» Яраслаў Іванюк. Белліцэісты другіх класаў падрыхтавалі мясцовыя стравы і адмыслова ўпрыгожылі іх бел-чырвона-белымі колерамі. Школьная камісія смакавала стравы і ацэньвала выгляд сталоў (на цэнтральным месцы кожнага знаходзіліся іконы), упрыгожаных беларускімі нацыянальнымі сімваламі, кветкамі, вышыванымі абрусамі. Праваслаўнай традыцыяй было памаліцца перад іконай перад тым, пакуль сесці за стол, каб падмацавацца. Частка другакласнікаў прыйшла на святкаванні апранутая ў касцюмы, стылізаваныя на даўнюю беларускую вопратку.

— 25 Сакавіка — самая важная дата для нашага белліцэя, — лічыць дырэктар Андрэй Сцепанюк.

Настаўніца беларускай мовы Яўгенія Таранта дадала, што формула святкавання Дня Волі вельмі падабаецца вучням.

— Мы з дапамогай сямейнікаў падрыхтавалі мясцовыя стравы, рэцэптуры якіх перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Сталы ўпрыгожылі нацыянальнымі сімваламі. У нашай школе свабодная і цікавая формула святкавання Дня Волі. Зараз слухаем беларускія песні і чакаем камісію, — заявіла белліцэістка Анна Гуль.

— Мы адчуваем сябе беларусамі, вучымся ў беларускай школе. Пакалькі Беларусь не да канца вольная дзяржава, тым болей трэба адзначаць Дзень Волі, які для нас вельмі важнае свята. Мы ўпрыгожылі наш стол бел-чырвона-белымі колерамі, пачынаючы ад страў у гэтых колерах, а канчаючы на бел-чырвона-белых колерах кветак. У нашым класе вучацца дзяўчаты са школьнага калектыву «Спадчына» і мы вырашылі спяваць па-беларуску пры стале, — сказала белліцэістка Аляксандра Варшыцкая.

Камісія, якую ўзначальваў дырэктар Андрэй Сцепанюк, за падрыхтоўку смачных страў і за адмыслова ўпрыгожаныя сталы прызначыла ўсім другім класам першыя раўнапраўныя месцы, у выніку чаго ўсе другакласнікі на адзін дзень будуць вызвалены ад вусных і пісьмовых адказаў.

У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім 25 сакавіка была наладжана ўрачыстая лінейка для белгімназістаў. Перад вучнямі выступілі гімназісты з II «ц» класа, якія з дапамогай настаўніцы беларускай мовы Валянціны Бабулевіч падрыхтавалі гістарычную прэзентацыю аб Беларускай Народнай Рэспубліцы і дэкламацыю патрыятычных вершаў. Удала з беларускім рэпертуарам запрэзентаваўся школьны музычны калектыў «Капрыс», якім апякуецца Анна Вярцінская. Дырэктар школы Яўгенія Васілюк падчас лінейкі звярнула ўвагу на патрэбу святкавання Дня Волі і пазнавання сваёй гісторыі.

— Гісторыя Беларусі гэта частка нашай гісторыі. Сёння, арганізуючы лінейку, мы стварылі ў школе святочны настрой, — заявілі бельскія белгімназісткі Анета Грыгарук і Наталля Томчук.

— Адкуль я працую ў «тройцы», штогод мы адзначаем Дзень Волі, найчасцей арганізуючы ўрачыстую лінейку. З гімназістамі я размаўляю пра гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі. З вучнямі падставовай школы мы святкуем больш паэтычна, — сказала пасля завяршэння школьнага мерапрыемства настаўніца Валянціна Бабулевіч.

Бельскія белгімназісты з двух класаў разам з Валянцінай Бабулевіч пабывалі таксама на канцэрце Зміцера Вайцюшкевіча, які 25 сакавіка пасля абеду адбыўся ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» ў Шчытах.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Ікона з Беларусі для царквы ў Седльцах



Беларускі прадпрымальнік Канстанцін Шавель урачыста перадаў ікону Святой Тройцы для царквы ў Седльцах. Як сам сказаў, падтрымка праваслаўных там, дзе яны складаюць меншасць вернікаў, гэта абавязак усіх тых, якія могуць дапамагчы развіваць рэлігійнае жыццё. Аб рангу ўрачыстасці сведчыла прысутнасць архірэя Люблінска-Холмскай епархіі архіепіскапа Авеля, пасла і заадно старшыні Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей Яўгена Чыквіна і брыгады расійскага рэлігійнага тэлеканала „Саюз". Як адзначыў настаяцель праваслаўнага прыхода а. Славамір Кохан, іконы адыгрываюць вельмі важную ролю ў рэлігійных практыках Царквы. Гэтая мае асаблівае значэнне, паколькі была падорана Свята-Троіцкаму прыходу. Факт перадачы іконы з Беларусі сімвалізуе сувязь праваслаўных па-над дзяржаўнымі межамі ды іх імкненне да згоды, міру і супрацоўніцтва. Пасол Сейма Яўген Чыквін сказаў у сваю чаргу: „Цешуся, што з блізкай нам Беларуссю царква ў Седльцах трымае прыязны кантакт. Па прычыне памылковай палітыкі санкцый і абмежавання правячымі коламі супрацоўніцтва неабходныя ініцыятывы, якія яднаюць нашыя блізкія народы. Кантакты і супрацоўніцтва паміж Касцёламі, паміж хрысціянамі Польшчы і Беларусі служыць будове добрасуседскіх, карысных для абодвух народаў і дзяржаў адносін".

У Седльцах жыве больш за 200 чалавек праваслаўнага веравызнання. Да Першай сусветнай вайны ў розных перыядах дзейнічала тут сама меней 9 цэркваў. Пасля ўсе былі ў праваслаўных адняты. Маліцца збіраліся яны ў часовых памяшканнях. Сітуацыя дыяметральна змянілася, калі ў 1990 годзе была асвечана мураваная Свята-Троіцкая царква па вул. Брэсцкай, пабудаваная па ініцыятыве а. Барыса Дыканца, народжанага ў наваколлі Маладзечна. З таго часу храм паступова абсталёўваецца, добраўпарадкоўваецца яго наваколле, а ў мінулым годзе была ўзведзена званіца. У выніку, пасля амаль стогадовага перапынку, у Седльцах зноў прагучаў Благавест.

**Адам БОБРЫК**




# У вянок Міколу Гайдуку

Цудоўную кнігу трымаю ў руках. Яна прысвечана памяці выдатнага беларускага празаіка, паэта, публіцыста, перакладчыка, фальклярыста, журналіста Міколы Гайдука (1931-1998). Таго самага Гайдука, які ведаў увесь беларускі свет Польшчы, якога ведала Беларусь. А кніга гэта мае назву „У беларускасці наш паратунак". Добрая назва кнігі. Бо Мікола Гайдук заўсёды ратаваўся і жыў беларускасцю. Так павінны рабіць сёння і мы, бо ратавання ў беларусаў іншага не існуе і ніколі не будзе. Мы павінны ратавацца менавіта беларускасцю.




Гэта дзякуючы руплівіцы Лене Глагоўскай, слаўнаму Янку Купалу Беласточчыны — Віктару Шведу, як называе яго ва ўспамінах Мікалай Панфілюк (я далучаюся да яго слоў) і апантанай у беларускасць і нашу роднасць Валянціне Швед, кніга ўспамінаў пра Міколу Гайдука пабачыла свет. Прачытаўшы яе я падумаў, які ўсё ж быў таленавіты і працавіты гэты Мікола Гайдук! Магчыма з яго трэба пачаць выдаваць поўны збор твораў. І тады Мікола Гайдук стане першым беларускім літаратарам Польшчы, спадчыну якога ў поўным аб'ёме мы збярэм і ў некалькіх тамах выдадзім. Бо зроблена Міколам Гайдуком ашаламляльна шмат.

Вельмі цікавай і даволі разнастайнай атрымалася і кніга ўспамінаў пра яго. Пра Міколу Гайдука і Падляшша напісалі Дарафей Фіёнік, Анджэліка Масальская, Славамір Іванюк і іншыя аўтары. Яўген Вапа распавёў пра Міколу Гайдука як журналіста тыднёвіка „Ніва", а Юрка Хмялеўскі — пра творчую сувязь Міколы Гайдука са штомесячнікам „Czasopis", Яўген Чыквін — пра супрацоўніцтва яго з асяроддзем штомесячніка „Przegląd Prawosławny". Анна Сакові у артыкуле „Аўтабіяграфічная проза Міколы Гайдука" разважае, што пісьменнік з дзяцінства быў даволі дасціпным хлопчыкам, талент і зацікаўленне ён меў з маленства, бо, як успамінае Гайдук, у яго, пяцігадовага хлапчука, быў вельмі дапытлівы розум, што калі дзядзькі Міхал і Антон хацелі набыць шнур сенакосу, то ён бясконца надакучаў бацьку рознымі пытаннямі. І толькі тады, калі бацьку надакучылі розныя пытанні, то ён пагрозліва сказаў: „Зараз як гэтым шнуром намераю табе па мяккім месцы, тады зразумееш і адчэпішся!". Вядома, тады маленькі Міколка адчапіўся ад бацькі, але ж зацікаўленне не перастала яго хваляваць усё жыццё. Гэта яно з маленства і зрабіла маленькага Міколку з Кабылянкі вялікім Міколам Гайдуком, пра якога ведае ўвесь беларускі свет.

Другі раздзел кнігі „У беларускасці наш паратунак" прысвечаны ўспамінам. Хто толькі светлымі і разнастайнымі ўспамінамі не прыгадвае Міколу Гайдука. Віктар Швед распавядае пра апошні дзень жыцця Міколы, той дзень, калі ён памёр у лесе з поўным кошыкам грыбоў. А Янка Целушэцкі ўспамінае, як стукнуўся вечарам Мікола на сваім самаходзе ў паліцэйскую машыну ў той час, калі паліцыянты мянялі ў ёй колы. Васіль Петручук прыгадаў, як ён з Міколам Гайдуком пасварыўся ў „Ніве". А Міра Лукша прызнаецца, што „з яго падручнікаў вучыліся мы, якія сталі яго калегамі, хоць крышачку набраўшыся ў яго імпэту і пільнасці". Мікалай Панфілюк успомніў буквар Міколы і Лідзіі Гайдукоў, які „пахне роднай Беласточчынай, мовай, зямелькай, нівамі і праўдай і ў ім няма праў штучнасці". А Надзя Запруднік успомніла той час, калі яна была ў Беластоку і гасцявала ў доме Гайдукоў, а Мікола ёй падараваў клубок нітак „на свэтар ад сваіх авечак"... І такіх розных і цікавых эпізодаў ад сустрэч і сяброўства з Міколам Гайдуком ва ўспамінах даволі шмат. Яны з захапленнем чытаюцца і запамінаюцца, бо даволі шчырыя і адкрытыя.

Трэці раздзел у кнізе — раздзел прысвячэнняў Міколу Гайдуку. Хачу адзначыць, што ён самы слабы з усіх раздзелаў кнігі. Творы, найперш вершы, прысвечаныя Міколу ці яго памяці, даволі кволыя. За выключэннем хіба двух вершаў Віктара Шведа і верша Сяргея Панізніка з нагоды выхаду кнігі Міколы „Паратунак" у мінскім выдавецтве „Юнацтва" (1993):

*Вяртаем з падзякай, віншуем з нагоды!*
*Няхай Вам спрыяюць змужэлыя годы!*
*На новы мацунак, на новы гадунак —*
*Юнацкі ўручаем мы Вам „Паратунак"!*

Прыгадваю я выхад кнігі „Паратунак" Міколы Гайдука 21 год таму. Кніга накладам 12 тысяч асобнікаў у Беларусі разышлася імгненна. Яна, як пісаў у прадмове да выдання Вячаслаў Чамярыцкі, была напісана даволі цікава, добрай беларускай моваю, своеасаблівым стылем. Кніга дапамагала нам тады і, вядома ж цяпер, азірнуўшыся ў смугу стагоддзяў, убачыць свой самабытны беларускі шлях і больш упэўнена глядзець наперад і больш настойліва змагацца за сваю будучыню, за сваё нацыянальнае Адраджэнне, неадлучнае ад еўрапейскай культуры.

Раздзел „З эпісталярнай спадчыны" пачынаецца лістамі Валянціны Трыгубовіч і Валянціны Пашкевіч. Валянціна Трыгубоч у сваім лісце, датаваным 30 лістапада 1980 года, распавядае пра юбілейную вечарыну Уладзіміра Караткевіча ў мінскім Доме літаратара. Я студэнт-першакурснік таксама прысутнічаў на гэтым мерапрыемстве, таму прачытаўшы грунтоўны ліст Валянціны Трыгубовіч да Міколы Гайдука, нібы зноў пабываў на тым незвычайным і гістарычным вечары Уладзіміра Караткевіча з нагоды яго 50-годдзя.

Валянціна Пашкевіч у сваім пісьме паведамляе з Мінска Міколу пра прыезд у канцы 1980-х гадоў у Мінск спевака Данчыка, пра выхад часопіса „Спадчына", пра сварку Міколы Шаляговіча з Іванам Чыгрынавым, пра Чарнобыльскі шлях, калона якога была ад Палаца прафсаюзаў да плошчы Перамогі ў Мінску.

У пісьме з Нямеччыны ў 1983 годзе Юрый Попка (1912-1990) паведамляў пра свае справы, пра тое, як збірае экспанаты для свайго Беларускага музея Інстытута беларусаведы ў Ляймене (Германія). Ён радаваўся кожнаму беларускаму экспанату. Але ў яго лістах прысутнічаў і адчай: „На вялікі жаль, з беларусаў і беларусак, што жывуць у Нямеччыне, яшчэ ніхто не адведаў ані музею, ані памятніка, хоць я іх запрашаў. Адзін толькі прафесар Барыс Кіт наведвае і дапамагае мне".

24 лістапада 1985 года Мікога Гайдук адказвае Юрыю Попку, дзе з вялікай горыччу паведамляе пра смерць Юркі Геніюша і адначасова выказвае свае думкі-расследаванні наконт яго смерці: „(...) Не-



Мікола Гайдук. 2.05.1973 г. Рэдакцыя „Нівы", у час працы над матэрыялам для „Газеты Беластоцкай".

# Ён ратаваўся беларускасцю

калькімі днямі перад смерцю ён зайшоў у „Ніву” і падчас звычайнай сяброўскай размовы таямніча мне шапнуў: „У мяне былі госці. Узламалі дзверы. Атруцілі сабаку. Ператрэслі ўсё ў хаце, грэбліся ў паперах. Шукалі невядома чаго. На шчасце я застаў. Яны ўцяклі (...)”. Калі гэта звычайныя госці, то не мусілі доўга капацца, бо ў кватэры Геніюшаў каштоўнасці ўсе на сценах: цэннейшыя зборы старажытных ікон, якім вартасці няма, ды іншыя каштоўныя старажытнасці ўверсе. Чаму смерць Юркі наступіла ў некалькі дзён пасля гэтага рабунковага нападу?..”.

У кнізе апублікаваны і пісьмы Юркі Рапецкага, Міхася Раецкага, Янкі Мойсіка, Надзі Кудасавай, Пётры Кажуры, Мацея Канапацкага, Уладзіміра Гайдука, Зоські Верас, Лявона Луцкевіча. Усе лісты вельмі багатыя на факты, на падзеі, на разважанні. Наогул, Мікола Гайдук шмат перапісваўся. Таму патрэбна выдаваць яго эпістalярную спадчыну асобным выданнем, так як выдаліся асобнымі кнігамі лісты Ларысы Геніюш, Зоські Верас, Мар'яна Пецюкевіча. Эпістalярная спадчына Міколы Гайдука — гэта сапраўдныя, гістарычныя дакументы. Таму нельга, каб яны зніклі бясследна.

Пяты раздзел кнігі „З рукапіснай і машынапіснай спадчыны” складаецца з чатырох твораў Міколы Гайдука. Найбольш цікавымі з'яўляюцца пра мітрапаліта Васіля Дарашкевіча і прамова на Першым з'ездзе беларускіх студэнтаў у Польшчы ў 1987 годзе. Мітрапаліт Васіль заснаваў Варшаўскую праваслаўную семінарыю і вучыў у ёй на беларускай мове, захапляўся беларускай паэзіяй, а „Новую зямлю” Якуба Коласа ведаў на памяць. Ён аднаўляў і адбудоўваў праваслаўныя храмы ў Польшчы. А на з'ездзе студэнтаў Мікола Гайдук казаў пра тыднёвік „Ніва”, прапагандаваў яго, адзначаючы, што „Нівы” (на канец сакавіка 1987 года) ужо выйшла 1611 нумароў агульным тыражом больш за 8 млн. экземпляраў, значыць на кожнага беларуса на свеце тады прыпадала па адным асобніку.

У апошні раздзел пад назвай „Альбом” кнігі „У беларускасці наш паратунак” увайшлі здымкі Міколы Гайдука ад маленства да апошніх дзён.

Некалі амерыканскі прадпрымальнік Стыў Джобс сказаў: „Мая праца — не палягчаць жыццё людзям. Мая праца — рабіць людзей лепш”. Лепшымі людзьмі старайся рабіць вандроўнік і збіральнік беларускасці Падляшша Мікола Гайдук. Памяць пра яго, у вянок яму — і новае выданне, пра якое можна разважаць бясконца.

## Песні Міколы Гайдука

Ніхто з беларусаў Беласточчыны так любіў беларускі фальклор, як Мікола Гайдук. Вынікам гэтай любові, напрыклад, да народнай беларускай песні стаў выдатны дыск песень Беласточчыны, які выйшаў у Крынках. На дыску з назвай „Песні мае, песні...” запісаны 22 народныя песні ў выкананні дуэта „Заранiца” ў складзе Іаанны Чабан і Галены Пухальскай.

Калі мая 83-гадовая маці праслухала гэты дыск, сказала: „Уключы яшчэ раз паслухаць „Зялёны дубочак”, „Рабіначку” і „Пасеяла агурочкі” — гэта песні маёй маладосці”. І я зноў уключаю ёй дыск, а мама ўважліва слухала галасістых спявачак, якія прыгожа спявалі песні, запісаныя Міколам Гайдуком, і нібыта сама падпявала. Мама слухала і на вачах у яе з'явіліся слёзы...




Толькі за запісы беларускага фальклору на Беласточчыне, па прапагандзе яго ў друку, Міколу Гайдуку трэба было пры жыцці даваць званне Народнага пісьменніка Беларусі. Дзіву даюся, калі ён паспяваў усё рабіць: збіраць, запісваць, апрацоўваць, друкавацца. Пагартайце тыднёвік „Ніва” за 1960-1980-я гады ці „Беларускі каляндар” за тыя ж гады і вы ўпэўніцеся ў тым, як працаваў Мікола Гайдук і як трэба нам працаваць сёння на ніве беларускага фальклору, тым больш што яшчэ жывуць беларусы канца 1920-х — пачатку 1930-х гадоў нараджэння, якія ведаюць народныя песні, прымаўкі, загадкі, легенды, паданні, казкі. Гэта мы цяпер мала ведаем і рэдка спяваем нашы народныя беларускія песні. А Мікола Гайдук іх ведаў шмат. Ён апублікаваў больш за 700 сваіх запісаў беларускіх народных песень з нотамі (іх расшыфроўвалі Людміла Панько, Сяргей Лукашук, Эдуард Гойлік, Ян Бондар і іншыя кампазітары). Ён сабраў і апрацаваў зборнік казак і легенд „Аб чым шуміць Белавежская пушча” (Беласток 1982). На польскай мове выдаў „Белавежскія паданні” (Беласток 1990), на беларускай мове — кніжку легенд і паданняў „Белавежскія былі і небыліцы” (Мінск 1996). Са сваіх запісаў Мікола Гайдук уклаў том беларускай народнай творчасці (больш за 600 тэкстаў) „Песні Беласточчыны” (Мінск 1997), іх сістэматызаваў, напісаў уступны тэкст і каментар. У той том увайшлі песні калядныя, шчадроўкі, юр'еўскія, траецкія, купальскія, пятроўскія, жніўныя, восеньскія, хрэсьбінныя, застольныя, жартоўныя, вясельныя (сватанне, запоіны, каравай, дзявочы вечар, пасад, сірочыя, прыпеўкі, пярэзвы) і іншыя. Змешчаны там таксама песні рэкруцкія, казацкія, чумацкія, любоўныя, сямейна-бытавыя, балады, гістарычныя і іншыя. Да шматлікіх тэкстаў дадаюцца ноты. Фальклорныя запісы Міколы Гайдука ўвайшлі таксама ў тамы беларускай народнай творчасці „Балады” (Мінск 1977-1978) „Легенды і паданні” (Мінск 1983), „Вяселле. Песні” (Мінск 1986-1988).

Гартаю тыднёвік „Ніва” і чытаю даследчыя артыкулы Міколы Гайдука, прысвечаныя беларускім народным песням: „Вясна ў беларускіх народных песнях Беласточчыны” (1963, 4 красавіка), „Каляды ў народных песнях Беласточчыны” (1965, 7 студзеня), „Дажынкі ў фальклоры” (1971, 15 жніўня) і г.д. А ў „Беларускім календары” — артыкулы за артыкуламі па даследаванні беларускіх народных песень. У „Беларускім календары” за 1987 год чытаю артыкул „Песні тых часоў” пра Веру і Уладзіміра Хомікаў са Слоі, пра іх лёс і любоў да народнай песні. Ад Уладзіміра Хоміка Мікола Гайдук запісвае песні, з якімі той „ідзе праз усё працавітае і руплівае жыццё”. А мелодыі песень расшыфроўвае былы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук. Вось як гучыць першая страфа з песні „Велікодная”:

*Вясёлы дзень панам настаў —*
*Пірог з гусём з пячы дастаў,*
*Вясёлы дзень,*
*Вясёлы дзень!..*

А ў „Беларускім календары” за 1981 год Мікола Гайдук у матэрыяле „Покль сонце зыйдз...” распавядае пра дзвюх жанчын з вёскі Мікулічы, што ў Мілейчыцкай гміне. Гэта пра Ніну Такаюк і Яўгенню Вішанку. Ад іх фалькларыст запісвае ў 1979 годзе вязанку песень. А мелодыю рысшыфроўвае Ян Бондар. Гэта некалькі балад, жартоўных, вясельных, жніўных песень. Адна з балад пачынаецца жартаўліва:

*— Ой, умру я, умру та й буду дывытысь,*
*Чы будэ мой мілы по мніе шчэ й журытысь.*
*Мілы зажурыўся — шчэ й сіеў, подголіўся:*
*— Коб тую сховаты, хутчэй бы жыныўся!..*

І калі Міколам Гайдуком пры жыцці было запісана больш за 700 беларускіх народных песень з нотамі, а на дыску „Песні мае, песні...” змешчана толькі 22, то неабходна яшчэ выпускаць каля 30-35 дыскаў з ім запісанымі песнямі. А гэта будзе цэлая фанатэка і адначасова памяць пра беларуса з Беласточчыны. Тым больш, што добры пачатак ужо зроблены.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



„Белавежцы” — злева стаяць: Георгій Валкавыцкі, Ян Чыквін, Кастусь Бандарук, Сакрат Яновіч, Мікола Гайдук, сядзяць: Віктар Швед, Юрка Геніюш (1973 г.)

## Мой клопат пра „Ніву”

У пачатку ліпеня 2012 года Гмінная спулдзельня (ГС) у Нараўцы (Гайнаўскі павет) спыніла продаж беларускага штотыдзёвіка „Ніва” ў сваіх крамах, між іншым, у Нараўцы, Старым Ляўкове і Плянце. З гэтым фактам мне было цяжка пагадзіцца. „Ніву” купляў: раз больш, другі раз менш экземпляраў. Дадам, што ў Нараўчанскай гміне газетна-часопісных кіёскаў „Рух” няма. Тады я пастанавіў сам распаўсюджваць газету беларусаў у Польшчы. І наш родны тыднёвік купляў суседзям у кіёсках у Гайнаўцы або ў Беластоку.

23 сакавіка гэтага года заходжу ў спажывецкую краму ГС у Нараўцы (яна побач помніка) і бачу... ёсць „Ніва” № 12 ад 23 сакавіка 2014 года! Вось неспадзеўка. Аказваецца, што наш беларускі тыднёвік зноў пачалі браць на продаж. Пакуль што ўсяго два экземпляры. Адзін у суботу купіла Ніна Барэчка для Галіны Бірыцкаяй з Плянты. Другі экземпляр купіў я для суседкі з Новага Ляўкова.

Дванаццатага нумара „Нівы” я прадаў два экземпляры ў Старым Ляўкове і пяць у Новым Ляўкове. Родны тыднёвік я прывёз з Беластока ў пятніцу. Яшчэ спатрэбяцца два экземпляры ў Плянту: пастаянным чытачкам настаўніцы-пенсіянерцы Валянціне Самойлік і жонцы тамашняга солтыса Ірэне Врублеўскай.

У гэтым нумары „Нівы” ёсць, між іншым, пра вечар паэзіі ў Семяноўцы (са здымкамі). У прыгожай прасторнай святліцы ў Семяноўцы 28 лютага г. г. выступіла аж сем паэтаў і паэтак ды ўсе яны з Нараўчанскай гміны. Гэта нешта небывалае. Пра іх хочуць больш даведацца з „Нівы” № 12 жыхары гэтай і іншых гмін. Між іншым таму неаднойчы пыталі мяне, дзе яшчэ можна купіць гэты нумар нашага штотыднёвіка.

## Вясна над Семяноўскім возерам

Прыйшла вясна і стала цёпла на двары. На берагах Семяноўскага возера зачасціді вудзільшчыкі. З берага ў ваду плюхаюцца вялікія зялёныя жабы. У веснавой вадзе „вухаюць” (чуюцца аднастайныя гукі: — У...у...у...) жарлянкі — невялікія цёмныя жабкі з аранжавым брушкам, пакрытыя чорнымі плямкамі.

На камень, каля самай вады, ускочыла прыгожая зграбная птушка з вузкім, доўгім хвастом. У яе чорная галоўка з белымі шчочкамі і вострай дзюбкай, а ўся яна светла-шэрая.

Гэта — пліска. Яна заўсёды трымаецца каля вады. Шпарка скача непаседлівая птушка па беразе, ківаючы на кожным кроку галоўкай. Доўгі хвосцік яе то ўзнімаецца, то апускаецца. Яна ўся быццам на спружынах.

Вяртаюцца з цёплых краёў на радзіму жоравы, буслы, гусі і качкі. Птушынае жыццё набірае тэмп. Паявіліся чародкі шматлікіх відаў птушак, такіх як гусь, крыжаванка, цыраначка, стрыж, шылахвостка, двухчубыя чомгі і свістун. Прыляцелі трысняговыя стрынаткі і лугавыя шчабятухі. Чайкі рыхтуюцца да гнездавання на тутэйшых астравах.

Зараснікі на вільготных і падмоклых берагах Семяноўскага возера займаюць рэмізы, варакушкі, азёрныя кнігаўкі ды сіваваронкі. Яны для іх найлепшыя для пасялення.

У сакавіку-красавіку нерастуе шчупак; акунь і язь — у красавіку-маі; ёрш — у пачатку красавіка; плотка — у маі-чэрвені. Тэрміны нерасту ў рыб розныя. Шчупак, акунь, карась і карп мечуць ікру сярод зараснікаў вадзяных раслін. Яны не клапоцяцца аб лёсе свайго патомства, не аберагаюць малявак.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# 25 Сакавіка ў Бельску








Дзверы ў Бельскі белліцэй аздаблялі бел-чырвона-белыя сцягі. Свята Волі адчувалася поўнай парай у сярэдзіне будынка. Увесь калідор быў абвешаны мастацкімі плакатамі, адмыслова падрыхтаванымі ліцэістамі пад 25 Сакавіка. Разам з сябрамі ад інтэрнэтнай бібліятэкі „Камунікат” мы былі запрошаны ў якасці гасцей-дакладчыкаў. Нашыя выступленні былі запланаваны для вучняў другіх класаў. Мне выпаў гонар прэзентаваць маю кнігу „Беларусь. Любоў і маразм”. Задача аказалася інтэрактыўным выклікам, паколькі ангажаваліся самі ліцэісты, падбадзёраныя сяброўкай-сустрэчніцай Оляй Вяршыцкай.

Ці нашая моладзь зацікаўленая Беларуссю?

Яшчэ як! Пра гэта сведчылі пытанні, падрыхтаваныя нашымі сябрамі. Напрыклад, іх цікавіла, наколькі важнае свята 25 Сакавіка для моладзі ў Беларусі. Як жывы прыклад паслужыў тут фільм Вольгі Мікалайчык пра палітвязняў Зміцера Дашкевіча і Артура Фінкевіча. Беларускія аднагодкі лічаць сябе рэвалюцыянерамі (!) і абаронцамі незалежнай ідэі Беларусі. Мы таксама гаварылі пра святкаванне 25 Сакавіка, якое апісваецца ў кніжцы. У прэзентацыі былі скарыстаны перадачы па СМІ, між іншым, культавая праграма Міхала Ногася (III праграма Польскага радыё) „3 найвышэйшай полкі”.

Моладзь спытала... пра тое, як святкавалі Дзень Волі ў мае ліцэйскія гады. Вось, у пачатку 1980-х галоў гэтае свята ў нас таксама было жорстка забароненае. Мой першы Дзень Волі звязаны з Варшавай і вучобай у ВНУ. Яго мы адзначалі ў глыбокай канспірацыі, пры завешаных заслонках і адключаным стацыянарным тэлефоне. На святкаванне была запрошана толькі жменька давераных сяброў. Амаль усе мы былі выпускнікамі бельскага або гайнаўскага ліцэяў. А вечарыну наладзілі ў варшаўскім клубе БГКТ (!).

Таму, калі пасля сустрэчы мы выйшлі на калідор, не хацелася адразу паверыць у пабачанае. Проста Свята Волі тут лунала, пахла і гучала з усіх куткоў. Дзяўчаткі падрыхтавалі застолле з беларускай ядой, а ў спартыўнай зале праходзіў вясёлы, каларытны турнір. Спевы і гульні, каляровыя касцюмы і радасць у вачах — ніхто не напіша лепшага сцэнарыя для радасці ад свабоды.

— Я сёння сказаў сваім вучням, — патлумачыў дырэктар Андрэй Сцепанюк, — што 25 Сакавіка гэта свята беларускай свабоды і годнасці...

Дапаўненнем слоў стала ўрачыстае ўскладанне бел-чырвона-белых кветак на магіле Яраслава Кастыцэвіча, арганізатара беларускага школьніцтва на Падляшшы і стваральніка БНР.

Мы разумелі, што дзякуючы яго асобе, наша сустрэча ў белліцэі была магчымай!

ЗОРКА

# Наш беларускі малебен

Як адчуваюць сябе дзеці, калі ў царкве ідзе багаслужба па-беларуску?

— Я адчуваю сябе крыху як на ўроках беларускай мовы, — кажа Куба.

— Я вельмі ўважна слухаю Евангелле і ўсё разумею. Мне тады прыемна, я адчуваю сябе больш дарослым.

— А любіш урокі беларускай мовы?

— Гэта, як інфарматыка, мой любімы прадмет...

— Калі сядзіш пры камп'ютары, ці карыстаешся таксама беларускай мовай?

— Чытаю подпісы да здымкаў, сам так яшчэ не пісаў...



Фота Ганны Кандрацюк

За два дні да 25 Сакавіка, у беластоцкай царкве Агія Сафія традыцыйна ўжо быў адпраўлены малебен за беларускі народ. У гэтай царкве ранняе набажэнства называюць „беларускім”. Гэта таму, што Евангелле і яго тлумачэнне святар чытае па-беларуску. Айцец Анатоль карыстаецца жывой мовай з Сакольшчыны, і гэта дапамагае зразуменню. Таксама моладзевым хорам кіруе Кацярына Жамчужнікава з Мінска. Яна журналістка Радыё Рацыя. Спецыяльна пад Свята Волі пані Кася падрыхтавала з дзеткамі і моладдзю цудоўны малебен па-беларуску. Сярод прыслужнікаў мы прыкмецілі Кольку і Алеся Здрайкоўскіх. Здаецца, гэтых хлапцоў не трэба прадстаўляць чытачам „Зоркі”. Яны з нашай старонкай — ад калыскі. У гэты раз яны ўразілі стрыманасцю і разуменнем абставін. Хлопцы — узор для сваіх аднагодкаў. Пасля малебна, калі дарослыя ў першым вясновым цяпле абмяркоўвалі, стоячы ля царквы, свае справы, дзеці гулялі ў сваёй грамадзе. Гэтая карцінка таксама дыхала вясновай прыгожасцю.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Вінаваты паляўнічы

Зайчык зайчыка запытаў:
— Дзе ты ножку паламаў?
Можа надта ваяўнічы
Цябе падстрэліў паляўнічы?

— Тут паляўнічы вінаваты,
3 аблавай вандраваў зауззята.
У полі задрамаў я трошкі,
А ён мне наступіў на ножку.

### Павалі і хутка

Настаўніца пытае Колю:
— Чаму ўсё робіш так паволі,
Паволі думаеш, гаворыш,
Прысвоеваеш паволі творы?

Ці нейкія бываюць спробы
Што ты надзвычай хутка робіш?
— Мушу прызнацца ў школе, дома,
Я хутка мучуся, вядома.

# Масавы конкурс „Роднае слова”

— Амаль усе нашы дэкламатары з пачатковай школы, — кажа Іаанна Марко, — гімназію прадстаўляюць пяць вучняў...

Так больш-менш выглядае састаў усіх удзельнікаў раённага агляду „Роднае слова” ў Беластоку. Лік, якім так ганарацца арганізатары, падбіваюць наймалодшыя. Яны нясуць з сабою непаўторны энтузіязм, шчырасць, пяшчоту. Але ёсць небяспека ў такой падборцы выступоўцаў. Дзеткі вокамгненна губляюць зацікаўленасць для цэласці, пасля выступлення ім хочацца адрэагаваць, пабрыкаць...

На 134 дэкламатараў гімназію прадстаўлялі толькі дваццаць асоб. Пры гэтым, не гаворыцца ўжо пра зоркі, новыя таленты. Яны несумненна ёсць, аднак пры масавай колькасці і безупыннай мітусні (увесь час хтосьці прыходзіць, выходзіць, нехта размаўляе, нехта сваволіць на калідоры) настрой губляецца ды разбіваецца.

Напэўна новай і пазітыўнай з'явай было тут пашырэнне геаграфіі дэкламатараў. Апрача Беластока прыехалі дзеткі з Крынак, Бабікаў, Шудзялава, Міхалова, Гарадка, Залук, Рыбалаў. У гэтым годзе шмат нашых вучняў рашыла выступіць з вершамі Міры Лукшы (!). Падборка, як сказалі мне дзеткі з Сакольшчыны, не была выпадковай:

— Раней мы пабачылі фантастычны спектакль „Жывінкі з глыбінкі” на словы Міры Лукшы. Яго паказалі дзеці з беластоцкай „чацвёркі”. Жывая музычна-паэтычная прэзентацыя тома вершаў адкрыла іх на прыгожасць беларускага слова.

На жаль, дзяцей з „чацвёркі” не было на „Родным слове”. Шкада, іх выступленне цудоўна папоўніла б настрой конкурсу. Адбудзецца ён 24 сакавіка г.г. у памяшканні БГКТ па вуліцы Варшаўскай у Беластоку. ЗОРКА

Фота Ганны КАНДРАЦЮК









*Кацярына МУЧКО, Нараўка*

## Памяць

**Цела застаецца, душа адыходзіць**
**І вяліікі смутак з'яўляецца.**
**Часам хочам паміраць,**
**Часам не.**
**Часам не ведаем,**
**Куды дзецца?**

**Ты адышоў,**
**Памятаю.**
**Згадваю гэтыя хвіліны**
**Добрыя і злыя.**
**Ці хочаш, ці не**
**Я запамятаю цябе такім,**
**Які ты быў.**

## Увага, конкурс!!! (№ 14-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 13 красавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Дружна разам працавалі,**
**Новы дом пабудавалі**
**Без пілы, без тапара.**
**Пад сасною ёсць гара,**
**Іхні дом у той гары...**
**Як завуцца жыхары?**
**(м......)**

**2.**

**Крылаў не мае,**
**А лятае,**
**Без рук,**
**А вароты адчыняе,**
**Без голасу,**
**А спявае,**
**Без пугі,**
**А хмары ганяе.**
**(в....)**

**Адказ на загадкі № 11: бусел, вясна.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Альжбета Харкевіч і Аня Бляўская з Нараўкі. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 14

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10:**

Як, кніга, літр, баба, ало, падснежнік, пралеска, абіркі, літ, нага, не, жаба, траўка, дух, рог, кат, пытанне. Ян, жук, апранаха, баабаб, адліга, сера, Гданьск, тры, лекі, рот, ложа, нага, леў, кон, ракетка.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Ar / Bocian | | Siła / Lwica | | Niebo / Taniec | | | |
| | Bilet | | | | | | Kot | Prąd | |
| Ziemniaki / Wargi | | | | | | | | | |
| | Sawana | | | | | | | | Cud |
| | Punkt | | | | On | | Jar | | |
| | | | Ciocia | | | | | | |
| | | Pan | | | | Ród | | | |

# Дыскусія на «Дзяды»

Тыдзень таму пісалі мы аб беларускамоўным спектаклі „Дзядоў”, прадстаўленых у беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі мінскім незалежным тэатрам „Ч”. Быў ён таксама інаўгурацыяй на Падляшшы адзначання сёлетняга Дня Волі. Галоўнымі панелістамі былі: дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоль Вап, гісторык прафесар Алег Латышонак, рэжысёр Рамуне Кудзманайтэ, рэжысёр і прадзюсар Андрэй Чорны, крытык Тадэвуш Корнась, рэжысёр Крыстына Майснер, доктар Катажына Савіцкая-Мяжынская з Інстытута польскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку .Вядучы — журналіст «Нівы», рэжысёр, тэатразнавец Мацей Халадоўскі. Публікуем самыя цікавыя тэматычна вытрымкі з размовы пасля спектакля.

Мацей Халадоўскі: — Паказ спектакля «Дзяды» незалежнага тэатра «Ч» заўдзячваем дырэктарцы беластоцкага Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі Агнешцы Карыткоўскай-Мазур, якая шырока разгарнула супрацоўніцтва ў галіне тэатра паміж Польшчай і Беларуссю, а таксама беларушчынай «тутэйшай», прыгадаем спачатку **«Czarnobyl Last minute»** ці славутую ўжо «Антыгону». «Дзяды», якія мы паглядзелі, мелі прэм’еру ў красавіку мінулага года. Гэта была ў прынцыпе першая прэм’ера ў Беларусі (не лічыўшы спектакля «Дзядоў» Лялечнага тэатра ў Мінску, якая мела месца ў лістападзе 2012 г.). Адна з беларускіх крытычак назвала яе «першай прэм’ерай беларускамоўных «Дзядоў» і найбольшай у сувязі з гэтым падзеяй на беларускай тэатральнай сцэне апошняй чвэрці стагоддзя», лічыўшы тую чвэрць стагоддзя незалежнасці ад распаду Савецкага Саюза. Гэты спектакль упісваецца ў нас таксама ў адзначанне Дня Волі Беларусі надалей зняволенай, дзе ў лагерах прабываюць палітвязні, няма свабоды слова.

Першае пытанне пастаўлю Андрэю Чорнаму. Ён тры гады таму меў такую задуму, каб паставіць «Дзяды». Чаму Вы рашыліся паказаць беларусам беларускія «Дзяды»?

Андрэй Чорны: — Гэтую ідэю прынёс мне пару гадоў таму мой сябра-гісторык, даследчык Беларусі, які запрапанаваў мне паставіць «Дзяды», якіх ніколі не ставілі ў Беларусі. Пачаліся пошукі рэжысёра. Я ў беларускай прасторы такога рэжысёра не бачыў. Мне падабалася эстэтыка літоўскага тэатра. Я быў упэўнены, што менавіта яна дазволіць перадаць у поўнай меры містыку вельмі складанай паэмы. І мы знайшлі Рамуне ў Літве, з вельмі моцнай камандай.

М. Халадоўскі: — Спадарыня рэжысёр, калі я з Вамі размаўляў у студзені пра спектакль, Вы сказалі, што хочаце спектаклем разбудзіць беларускую душу. Ці ўдалося?

Рамуне Кудзманайтэ: — У Беларусі ў нас ва ўсіх спектаклях — я прыязджаю амаль на кожны — залы заўсёды поўныя і водзывы публікі — як мне было ні дзіўна — намнога больш тэмпераментныя чым тут, у Беластоку. Для іх некаторыя месцы становяцца нейкімі лозунгамі на мітынгу, як «Жыве мая Радзіма», «народ маўчыць, баючыся тырана» — яны суправаджаюцца абсалютнымі апладысментамі. Гэтыя апладысменты не так у падтрымку акцёраў, якія аддаюць сябе, ды вось яны чуюць у гэтым пратэст. Не маюць магчымасці выйсці на вуліцы, на плацы і ў гэтым спектаклі маюць магчымасць такога пратэсту апладысментамі. Гэта знак таго, што тая душа чуе, прачынаецца.

М. Халадоўскі: — Маю пытанне да гісторыка, гісторыка ідэі Алега Латышонка: ці п’еса, мастацтва ў змозе прабудзіць беларускую нацыянальную душу?

Алег Латышонак: — Сярод некаторых... Але інтэлігентны Мінск так будзе рэагаваць. Калісь Міцкевіч быў у Беларусі нечытэльны. Калісь прабавалі «Пана Тадэвуша» пераказваць на беларускую мову, занесці «пад стрэхі». Але гэта сялянскі народ, для якога гэтыя пакуты, што паказваюцца ў «Дзядах», не былі яго пакутамі. Зараз ёсць такая сітуацыя ў Беларусі, што ёсць ужо інтэлігенцыя, якая можа з філаматамі і такімі людзьмі ідэнтыфікавацца.(...) Я аглядаючы гэтае прадстаўленне першы раз лепш разумеў штосьці па-беларуску, чым у арыгінале. Я да пастаноўкі яшчэ раз прачытаў «Дзяды» па-польску. Гэта для мяне не беларускія «Дзяды». Яны звышчасавыя, звышнацыянальныя. У Міцкевіча няма нічога беларускага, апрача слова «Дзяды». Тут нават тое, што магло быць яшчэ палічана як беларускае, уніяцтва, — таксама гэтага няма, ксёндз тут ужо каталіцкі. Але гэта драбяза. Можа, гэта нават і лепей. Ёсць творы звышнацыянальныя, якія кранаюць тыя самыя струны. Калі хтосьці змагаецца за свабоду, скажам, Шатланлыі, гэта на мяне ўздзейнічаее таксама, як бы хто змагаўся за непадлегласць Польшчы, Літвы ці Беларусі. І гэты твор так прачытаны так успрымаю. «Дзяды» цяпер можа больш беларускія, таму што такі гістарычны кантэкст. Беларусь цяпер у такі перыяд. Але гэта не аддае беларускай самасвядомасці. Гэта пра тоеснасць чалавека, які спрачаецца з Богам, не хоча пагадзіцца з няволяй.

М. Халадоўскі: — У Беларусі гэты кантэкст імперыяльны, расійскі, увесь час вісіць у паветры. Тут я маю пытанне да спадара Тадэвуша Корнася, які ёсць знакамітай постацю тэорыі і гісторыі польскага тэатра, з кафедры Ягелонскага ўніверсітэта, сааўтара кнігі «Дзяды ад Выспянскага да Гратоўскага». Я маю пытанне. Ці тыя «Дзяды» з вашых ведаў пра польскія пастаноўкі — наколькі адменныя, як характарызуюцца, ці тая «беларускасць» кідаецца ў вочы?

Тадэвуш Корнась: — Я гэтыя «Дзяды» паглядзеў з агромнай прыемнасцю. У Польшчы цяпер адбыліся дзве прэм’еры «Дзядоў», больш-менш у гэтыя дні. У Польшчы вельмі змянілася стаўленне да рамантызму, да таго, што нясе спадчына рамантызму, то-бок таксама да разумення спраў звязаных са свабодай, з народам. Трохі ў іншым месцы пачалі тут праз «Дзяды» дыскутаваць з польскай традыцыяй. Затое гэтыя «Дзяды» для мяне вельмі прыгожыя, вельмі беларускія. Беларуска-літоўскія. Таму што знайшоў я ў іх вельмі шмат элементаў літоўскага тэатра, які люблю, вырасляга з Някрошуса, Вайткуса. А беларускім было для мяне тое, што найважнейшае ў гэтай драме — паказаў мне такую сілу, што можна адклікацца да спраў найважнейшых, да цэлых краін, да цэлых народаў. Што праз мастацтва, праз твор можна гаварыць часам наўпрост. Нейкія моманты з гэтага прадстаўлення я запамятаю надоўга.

М. Халадоўскі: — Я хачу запрасіць да дыскусіі яшчэ адну асобу, легенду польскай рэжысуры, шматгадовую дырэктарку польскіх тэатраў, а што важнае ў гэтым кантэксце, адкрывальніцу ў 1990 годзе адной з літоўскіх пастановак «Дзядоў» Йонаса Вайткуса; калі гаворка пра тоеснасцевы, вонкавы кантэкст — спадарыню Крыстыну Майснер. Ці той вонкавы кантэкст 1990 года, «Дзядоў» якія вы прывезлі ў Польшчу, ці той кантэкст прысутны таксама ў гэтых «Дзядах», ці можна іх параўнаць, ці гэта зусім адрозныя рэальнасці, у якіх мы гэтыя «Дзяды» адчытваем?

Крыстына Майснер: — Напэўна абодва прадстаўленні зусім іншыя. Я хачу сказаць, што сумным ёсць у тэатры тое, што прадстаўленне памірае ў гэты момант, калі перастаюць яго ставіць. Таму што яно яшчэ нейкую хвіліну ёсць у памяці людзей, але памірае разам з часам. А тадышні спектакль быў зусім іншы, чым сённяшні. Я сённяшні не да канца зразумела, хаця буду да яго «дабірацца» праз тэкст. Я не ведаю беларускай мовы, але часам арыентавалася, якіх фрагментаў Міцкевіча датычыць, якія ўжываюцца прыёмы ў спектаклі. Для мяне прадстаўленне было вельмі сённяшняе, хвалюючае. Таму што аказалася, што Вайткус, які паказаў «Дзяды» ў той год праз савецкія лагеры, выклікаў бунт сярод палякаў. Анджэй Вайда ў Варшаве выйшаў з гэтага спектакля ў Вялікім тэатры. Вайда запратэставаў сваім выхадам, каб так інтэрпрэтаваць Міцкевіча. А сённяшняе прадстаўленне ўпэўніла мяне, што мы павіны галубіць нашу традыцыю прадстаўляння «Дзядоў», такую створаную праз традыцыю. Яна вельмі прыгожая, але варта яе сканфрантаваць з чымсьці іншым. Гэта значыць, з «Дзядамі» Вайткуса, тады вельмі палітычнымі, сёння з «Дзядамі» пані Рамуне. Дарэчы, віншую спектакля, бо ён сапраўды прыгожы. Ён прыгожы, і ў ім ёсць штосьці літоўскае! У гэты момант у ім змяшчаецца тое, што цяпер актуальнае для Беларусі. Я вельмі ўцешылася, калі даведалася, што «Дзяды» ставяцца ў Беларусі. Гэта значыць, што Міцкевіч быў вышэй за польскую нацыянальнасць, і ў тым, што да сёння актуальнае, на жаль, — у нашай частцы Еўропы. Я вельмі перажыла спектакль і вельмі мне ён спадабаўся. Вельмі.

М. Халадоўскі: — «Дзяды» па-беларуску ў Беластоку — гэта вялікая падзея...

Катажына Савіцкая-Межынская: — Вельмі ўцешылі мяне і ўсхвалявалі гэтыя «Дзяды». Як ведаю польскія сучасныя інсцэніроўкі «Дзядоў», дык чэрпаем энергію з іх дэканструкцыі. Тыя пытанні, якія ставім, намераны для таго, каб атрымаць зусім іншыя адказы. А я тут перажыла гэтыя «Дзяды» літаральныя як спробу чэрпання каштоўнасцей наўпрост з Міцкевіча. Гэта таксама нейкая інтэрпрэтацыя, аднак, без спробы палемікі, без спробы рэінтэрпрэтацыі. Чэрпанне проста з Міцкевічавага тэксту, які прагучаў тут вельмі актуальна, з-за кантэксту. І гэта мне здаецца быць вельмі каштоўным. І не магу не сказаць пару слоў на тэму тоеснасці, якая тут гучала не раз. І вярнуцца да Міцкевіча і яго тоеснасці, якую б я акрэсліла шматступенчатай, якая дазваляе нам пазбегчы вырашэнняў, ці быў ён беларусам, ліцвіном, палякам ці кім-небудзь яшчэ. Ён сказаў пра сябе так: **«żeś znad Niemna, żeś Polak, mieszkaniec Europy»**. І дзесьці там тая многакратная ідэнтыфікацыя гучыць у Міцкевіча, і мабыць з яе чэрпаецца ўніверсальнасць гэтага тэксту, які ёсць тэкстам пра свабоду і дылемы паміж супольнасцю і індывідуальнасцю, інтарэсы грамады і адзінкі. І па-польску, і па-беларуску можа гэта адазвацца актуальна...

М. Халадоўскі: — Я вярнуся да пытання будавання тоеснасці, супольнасці. Ці будаванне яе лёгкае тут, на памежжы? Польска-беларускім, польска-літоўскім? Ці для чыноўніка, які мае шмат кантактаў і з Літвой, і Беларуссю, і для беларуса, з душы і нацыянальнасці, тыя цяжкасці ёсць і якія яны?

Анатоль Вап: — На пачатку было цяжка зачаць тое супрацоўніцтва. Думаю, што цяпер гэта ўсё паскладалася, развінулася, установы ўжо нават не патрабуюць такой вялікай падтрымкі з боку нашай адміністрацыі, каб працягваць супрацоўніцтва — гэта ўжо робяць людзі культуры. Думаю што генеральна няма праблем з супрацоўніцтвам. Найбольшая перашкода гэта спадчына камунізму, сацыялізму, калі былі тыя межы ў адным сацыялістычным лагеры і мелі яны ўскладнены кантакт. Літва, Беларусь, Падляшша — гэта адна гістарычныя прастора, культурная. Чым больш часу праплыве, тым супрацоўніцтва, культурны абмен будзе штораз больш натуральным і паўсюдным. Нам вельмі залежыць у плане рэгіянальнай, нацыянальнай тоеснасці з простай прычыны — калі чалавек не атаясамліваецца з культурай, з рэгіёнам — не будзе атаясамліваца з нічым, з ніякімі вышэйшымі каштоўнасцямі. А наш маштаб на пагранiччы культуры вышэйшы — мы ідэнтыфікуемся не толькі з польскім рэгіёнам, але і з Літвой і Беларуссю.

М. Халадоўскі: — Немагчыма не пакарыстацца прысутнасцю акцёра які іграў ролю Густава-Конрада — Рамана Падалякі. Як Вам чытаецца, гаворыцца Міцкевіч? Як працуецца з такім тэкстам?

Раман Падаляка: — Па-першае, я шчыра прызнаюся, што не вельмі люблю сучасную драму. І той палёт паэзіі, які ёсць у Міцкевіча, — да яго трэба яшчэ дарасці, ці можна расці бясконца... У перакладзе з польскай мовы на беларускую ён гучыць выдатна, рамантычна, і ўздымае настрой вышэй за зямлю... Дзе ў цяперашняй драматургіі ёсць спрэчка з Богам?.. Для мяне гэта паэзія найвышэйшага гатунку. Я рады, што Андрэй Чорны і наш тэатр адважыўся на такі момант, такую пастаноўку.

М. Халадоўскі: — Дадам, што Раман Падаляка з’яўляецца акцёрам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску, іграе м.інш. Графа ў «Пану Тадэвушы», найнавейшай пастаноўцы гэтага тэатра... Маю пытанне: ці ў плане звычаяў, абычаяў, «фальклору» ў «Дзядах» — ці гэта ёсць сапраўдны пераказ, ці гэта больш тэатралізаваня форма?

Р. Кудзманайтэ: — Не скажу, што гэта няпраўда, бо шмат што суфліруецца Міцкевічам у яго тэксце (што адбываецца ў абрадзе) — самая галоўная крыніца гэта тэкст Міцкевіча. У Беларусі Ірына Клімковіч, фалькларыстка, памагала нам, мы вывучалі фальклор з усімі акцёрамі (у Беларусі чатыры дзядоўскія святы, не так як у Польшчы і Літве). З гэтых абрадаў узнікла таксама наша сцэнаграфія. Гэтыя бярвёны — гэта беларускі прыклад, такія бярвёны кладуцца на магілах, не так як камяні ў Літве. Мы мелі таксама песні, яшчэ не запісаны на дысках, толькі што прывезеныя з экспедыцыі, з Віцебскай вобласці. Міцкевіч нарадзіўся і жыў у гэтых месцах, пакуль паехаў вучыцца ў Вільню, бачыў той народ і іх абрады навокал. Я была ў Навагрудку, у Завоссі, там сапраўды беларускі народ. У самога Міцкевіча паказаны фальклор сапраўды беларускі, як у гэтым угашчэнні продкаў — мёд, малако...

А. Латышонак: — У нас тутэйшы дзядоўскі абрад звязаны больш з сямейным святам. Міцкевіч надаў свайму абраду такі гатычны, рамантычны характар. У нас гэта настрой сямейнага, жывога свята. Таму «Дзяды» ўспрымаюцца як такая рамантычная, гатычная стылізацыя, ухрысціяненая... А скажу як гісторык, што філаматы размаўлялі па-беларуску, пісалі вершы, спявалі. Тамаш Зан выступаў у п’есе па-беларуску, напісанай Чачотам. Нават ставілі прадстаўленні па-беларуску — тыя, хто былі героямі «Дзядоў». Беларушчына існавала там зусім непрымушана. У тым сэнсе гэтае прадстаўленне было як найбольш праўдзівае.

Р. Падаляка: — А калі гаворка пра беларускі фальклор, дык у нас у Беларусі на могільніках на дзядоўскія святы таксама святкуюць з продкамі, спажываюць стравы, выпіваюць. Гэта жывая дзядоўская традыцыя.

(лук)


Раенская царква

# У шырокі свет

Уранейшай вандроўцы па нашай Беласточчыне апынуўся я ў Пульшах. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага коратка згадваў пра гэтую вёску: „Pulsy, wieś, pow. bielski gub. grodzieńskiej, gm. Rajsk, kapl. katolicka parafii Wyszki". Ды і гмінны даведнік падае ненамнога больш звестак пра гэтую вёску. А нарадзіўся ў ёй біскуп Караль Грынявецкі...

Даведнік „Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861-1915" з 1940 года так пісаў пра яго: „Urodzony w 1841 r., kapłaństwo przyjął w 1867 r., w 1883 r. został biskupem wileńskim, ale zaledwie 2 lata był na tym stanowisku, gdyż rząd rosyjski zesłał go na wygnanie, które przeżył w ciężkich warunkach przez lat 6, ale i po tych latach rząd rosyjski nie zgodził się na powrót jego do stolicy biskupiej w Wilnie. W 1895 r. arcybiskup Hryniewiecki weszedł do Kapituły Lwowskiej w charakterze kanonika, której został kustoszem w 1916 r. Wobec Kościoła i Ojczyzny jest mężem dużej zasługi".

Чаму расійскія ўлады адправілі біскупа Грынявецкага ў ссылку? Тагачасныя расійскія газеты паведамлялі, што віленскі рымска-каталіцкі архіпастыр забараняе друкаваць па-расійску падручнікі рэлігіі для каталіцкіх дзяцей, якія вучацца ў школах Паўночна-Заходняга краю. Той жа біскуп патрабуе ад вучняў і настаўнікаў рэлігіі весці заняткі па-польску і сцвярджае, што ксяндзам нельга карыстацца ніякімі расійскамоўнымі, бо яны ерэтычныя, кніжкамі без ягонага або папы дазволу. І выставіў свой бюст з польскім надпісам „Ks. Kar. I. Hryniewiecki biskup wileński 1883 r." нават у жыдоўскіх крамах. Крыху пазней пецярбургскі польскамоўны тыднёвік „Kraj" (№ 12 ад 1884 г.) паведамляў, што ў час сустрэчы з віленскім генерал-губернатарам, калі апошні патрабаваў ад біскупа гаварыць па-расійску, біскуп Грынявецкі адказаў: „Zrobiłbym to z największą przyjemnością, lecz nie mogę, nie śmiem, albowiem Ojciec św. nie uznał języka rosyjskiego za język kościelny". І цяпер ксёндз законна — піша газета — не дапускае да споведзі і камуніі каталіка, які не ўмее польскай малітвы або не разумее польскага казання. Рэлігійна сфанатызаваны каталік намагаецца гаварыць на той мове, якая асвячана ў храме Збаўцы. У расійскай школе можаш вучыцца і сто гадоў, але нягледзячы на гэта не дапусцяць цябе да стала Гасподняга; навучанне рэлігіі па-расійску лічыцца ерассю і пражываючыя на тэрыторыі Расійскай імперыі каталікі мусяць вучыцца па-польску. А тыя школы, па-за дзяржаўным кантролем, навучаюць не толькі польскай мове, але і нянавісці да ўсяго, што расійскае. Трэба тут дадаць, што газета выходзіла пад строгім цэнзурным кантролем...

Неўзабаве расійскія газеты выкрылі, што біскуп Грынявецкі з'яўляецца... праваслаўным. Бо, паводле іх, маці біскупа выводзілася з уніяцкага, пераведзенага ў праваслаўе, роду, і таксама, праваслаўным паводле тадышняга расійскага заканадаўства, павінен быць і Караль Грынявецкі. Але ўжо ў 18 нумары ад 1884 года „Край" паведамляў, што род Грынявецкіх быў каталіцкі, а маці біскупа, хаця выводзілася з уніяцкай сям'і, выхавала яго „w zasadach wiary jego przodków linii męzkiej". „Край" ад 8 сакавіка 1885 года паведамляў ужо пра выезд біскупа: „Biskup Hryniewiecki udał się na dworzec kolei żelaznej petersburskiej w powozie odkrytym; ulice miasta Wilna, przez które przejeżdżał, przepełnione były ludem; na dworcu biskup wygłosił krótką pożegnalną mowę, atoli dzwonek się rozległ, parowóz gwizdnął, i biskup Hryniewiecki pojechał przez Petersburg do Jarosławla". „Край" ад 29 сакавіка таго ж года: „Hryniewiecki na nowy rok, wychodząc od jenerał-gubernatora (który go niezwłocznie przyjął i bynajmniej nie zmuszał czekać dwie godziny) spotkał w sali gościnnej duchowieństwo prawosławne z archirejem na czele i nietylko mu się nie ukłonił, lecz, odwróciwszy się głową, wymknął się (literalnie) około ściany, czem obraził obecnych rosyan".

Каталіцтва ў Расійскую імперыю завітала з часу цара Пятра І. У 1847 годзе паміж Расіяй і Касцёлам быў заключаны канкардат, які дазваляў папе некаторыя адміністрацыйныя паўнамоцтвы адносна каталікоў. З часам, аднак, расло незадавальненне ім праваслаўных іерархаў. Прызнанне Расіяй новай дзяржавы, Італіі, якая карэнна абмежавала тэрыторыю папскай улады ды падтрымка каталіцкім духавенствам польскага паўстання 1863 года прывялі да разрыву таго канкардату ў 1866 годзе. Аднак міжнародная сітуацыя мянялася і зноў Расіі патрэбная была прыхільнасць Ватыкана. У 1882 годзе бакі заключаюць чарговае пагадненне, у сілу якога папа Леў XIII назначыў дванаццаць біскупаў на тэрыторыі Расіі, у тым ліку і Караля Грынявецкага на віленскую кафедру.

Алесь Смалянчук так характарызаваў новую сітуацыю: „Новыя біскупы адчувалі за сабой падтрымку Ватыкана і дзейнічалі досыць рашуча. Прыкладам можа служыць дзейнасць віленскага біскупа Караля Грынявецкага; урачыстым аб'ездам Гарадзенскай губерні ён прыцягваў і фанатызаваў незлічоныя натоўпы вернікаў, сярод якіх былі не толькі былыя ўніяты, але і праваслаўныя. Ствараючы сабе арэол папулярнасці і гатовы пацярпець за веру, ён выдаў сакрэтны цыркуляр, якім забараняў выкарыстоўваць рускую мову ў набажэнстве. У 1885 г. біскуп быў высланы ў Яраслаўль. У дзень высылкі ён паспеў распарадзіцца, каб дыяцэзію ўзначаліў канонік Мацвей Герасімовіч. Віленскай капітуле пад пагрозай адлучэння ад Касцёла было забаронена [Грынявецкім] праводзіць пераабранне адміністратара дыяцэзіі. Аднак у хуткім часе М. Герасімовіч быў таксама высланы".

Даведнік „Bojownicy..." паведамляе, што імператар „вызваліў" біскупа Грынявецкага з пасады 26 студзеня 1885 года, а ў сакавіку 1890 года дазволіў пакінуць Яраслаўль і выехаць за граніцу без права вяртання; у маі выехаў ён у Галічыну. Даведнік: „Był cichy, miłował prostotę. Gdy jednak szło o sprawę Bożą, był jak lew nieustraszony. W czasie wojny wszechświatowej stanowczym wystąpieniem zmusił wojskowe władze niemieckie do zaniechania ewakuacji znacznej części naszej [lwowskiej] diecezji i w ten sposób tysiące ludu ocalił od tułaczki. Zmarł 14 kwietnia 1929 r. we Lwowie".

Рэпрэсіўныя меры царскіх улад не давалі пажаданага выніку і яны былі вымушаны ісці на пэўныя ўступкі. Напрыклад — піша Алесь Смалянчук — у чэрвені 1903 г. Гарадзенскае губернскае праўленне зацвердзіла каштарыс на будаўніцтва каменнага касцёла ў вёсцы Вышкі Бельскага павета. Такім, вось, чынам пара вяртацца з шырокага свету на Бельшчыну.

З Пульшаў падаўся я ў Стацэвічы. А тут нечаканасць: пасярэдзіне вёскі каменны крыж са свежа аднаўленым кірылічным надпісам з 1888 года, значыць з таго часу, калі народжаны ў суседніх Пульшах Караль Грынявецкі, магчыма, любаваўся панарамай Волгі ў Яраслаўлі. Вёска выглядае даволі мізэрна і той крыж здаецца быць адметнай яе аздобай. Гмінны партал: „Pierwsze wzmianki pochodzą z 1570 roku z czasów lustracji dóbr królewskich. Zapisano tam, iż wioska miała 12 włók „gruntu dobrego". Mieszkańcy płacili czynsz pieniężny oraz daniny w naturze. Aż do 1795 roku była to wioska królewska w ramach starostwa bielskiego, dzierżawiona różnym szlachcicom. Według danych z końca XIX wieku Stacewicze należały do gminy Rajsk w powiecie bielskim o 10 wiorst od Bielska. W 1921 roku we wsi tej były 24 domy i 104 mieszkańców, wśród nich było 61 prawosławnych, 35 katolików i 8 Żydów. Miejscowość należała do gminy Wyszki". Побач Стацэвіч — узвышша, на якім улады Вышкаўскай гміны хочуць паставіць ветравыя турбіны, а жыхары — супраць...

Чарговая мясцовасць — Сталавач. Быў там маёнтак, які ў час пруская панавання быў сядзібай амта — органа мясцовага кіравання. У 1800 годзе сталавацкі амт ахопліваў, м.інш. вёскі Стацэвічы, Гусакі, Паўлы, Войшкі, Плёскі... Загадчыкам амта ў 1799 годзе стаў Міхал Будзішэўскі, які абяцаў наглядаць за гаспадараннем земляробаў, ладзіць масты і дарогі, апекавацца нямоглымі...

Паводле легенды, у Сталавачы мела быць пабудавана царква, аднак валы, якія цягнулі матэрыял для яе пабудовы, затрымаліся ў Райску і далей не хацелі ісці. Магчыма, што гэтае падарожжа адбывалася ў адлігу, напрадвесні, бо ў тую пару дарога між Сталавачом і Райскам не надта прывабная. Выглядае яна як Галілейскае мора; можна па ёй хадзіць не надта патанаючы.

Чыгуначны пераезд каля Райска быў вымашчаны не надта скрупулёзна і за адну з бетонных пліт зачапіла кола поезда; у маю там бытнасць той пераезд няспешна чакаў рамонту.

У Райску спадзяваўся я зайсці ў краму, але яна аказалася пад замком. Акурат пакаэаўся пісьманосец і яго я пра тую краму спытаў. І даведаўся, што раенскія камерсанты перанеслі сваю краму на колы і цяпер прадаюць тавары з самахода. А крама ў недалёкіх Храбалах працуе толькі ў летні сезон...

Мой суразмоўца сеў у сваю малалітражку і накіраваўся ў тую дарогу, якая прывяла мяне ў Райск — накіраваўся ён у напрамку Сталавача. Занепакоіўся я, ці справіцца ён з тою дарогай, якая ў адлігу становіцца свайго роду фарватэрам. Але пасля здалося мне, што ён пастаянна ездзіць-плавае па той дарозе і напэўна знаёмы з усімі закавулкамі тамашняй лоцыі. Яму тая дарога — мора па калена, а легендарным, не зведаўшым броду, валам магло быць гэта мора разлітое...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Чаромхаўскі аповед (4)

Салдаты з эшалонаў пры пад'ездзе ў Чаромху, зведаўшы, што набліжаюцца да дзяржаўнай мяжы, выкідалі з вагонаў непрыдатная рэчы: вайсковыя шынялі, шапкі, бялізну. Людзі пасля іх падбіралі. Найбольш актыўнымі ў гэтай справе былі дзецюкі і падлеткі. Заранёў выходзілі яны на пуць пад урочышча «Каганка» і чакалі цягніка. Калі гэты набліжаўся, дык махалі з абочыны салдатам на прывітанне і гучна крычалі: «Дядя, подарите!». Салдаты кідалі, што мелі пад рукою: кацялкі, вайсковыя кубкі, міскі, кансервы.

Пасля ўезду на станцыю пачынаўся прыём цягніка чыгуначнымі службамі. Першымі ішлі вартаўнікі Службы аховы чыгункі («сакісты»). Следам падаваліся савецкі ды польскія аглядчыкі вагонаў, прыёмны гандлёвы адпраўшчык і агент. Кожны з іх, апрача выконвання службовых абавязкаў, займаўся сваім... бізнесам. Вядомым стала, што салдаты захапляюцца японскімі «маргалкамі». Гэта былі складныя каляровыя партманеты з фота японскіх актрыс. Калі партманет павярнуць набок, фота «прыплюшчвала» вока. Таму і салдаты назвалі партманеты «портмоне-моргалка». За кашалёчак плацілі па «чырвонцу», значыцца, дзесяць рублёў. Такія партманеты куплялі чыгуначнікі ў Варшаве на базары Ружыцкага. З таго, што памятаю, у модзе ў першую чаргу былі люстэркі з аголенымі жанчынамі ды каляровыя гальштукі на гумцы з такімі ж выявамі. Гэта было ў шасцідзесятых гадах. За люстэрка ці гальштук плацілі па пяць рублёў. Афіцэры ў той час «ганяліся» за картамі для гульні і аўтаручкамі з парнаграфічнымі выявамі. У сярэдняй частцы аўтаручкі знаходзілася вадкасць з мініяцюрнай стрыптызёркай. Калі павярнуць ручку ўверх нагамі, стрыптызёрка распраналася дагала. За калоду з 52 карт плацілі 25 руб., за аўтаручку — 15 руб. Гэта быў бізнес! За адну службу можна было зарабіць некалькі дзесяткаў рублёў...

У абменным гандлі не заставаліся бяздзейнымі і дзецюкі. Нягледзячы на гэта, што іх праследавалі «сакісты», яны быццам зайчыкі шмыгалі паміж вагонамі. Малечы цікавіліся значкамі, якія красаваліся на салдацкіх гімнасцёрках. Атрымаўшы такі падарунак, прышпільвалі значкі да вопраткі і ганарыліся імі. Афіцэры не праганялі дзетак. Наадварот, з ветлівасцю ставіліся да малеч. Абдароўвалі іх ласункамі, рафінадам і цукеркамі. Прыпамінаецца мне такое здарэнне. Хлапчук школьнага ўзросту падаўся да салдат за здабычай. Калі размаўляў з вартаўніком, падышоў да іх афіцэр і запрасіў хлопчыка ў цяплушку. Калі абодва апынуліся ў вагоне, цягнік рушыў. Дзецюка не паспелі выгрузіць. У салдацкай цяплушцы праехаў ён усю Польшчу аж на Узбярэжжа. Афіцэр выгрузіў дзецюка на станцыі і пакінуў без догляду. Незвычайнага «турыста» выявілі міліцыянеры, перадалі яго ў палату дзіцяці і паведамілі бацькоў. Адтуль хлопец трапіў дамоў.

Мне трапілася іншая бізнес-прыгода з рускімі афіцэрамі. Было гэта ў 1963 годзе. Працаваў я ў Ваяводскім праўленні кіно ў Беластоку кіраўніком кінаперасоўкі. Памятаю, што стаяла тады строгая зіма, снежная, з лютымі маразамі. Немагчымым было тады даехаць на машыне ў назначаныя вёскі. Даехалі мы на станцыю ў Чаромху. Адтуль на санях гаспадары вазілі нас у Кузаву, Дабрываду. Калі аднойчы заехаў за намі фурманкай швагер з Дабрывады, дык у машыну зайшло да нас двух савецкіх афіцэраў. Рэкамендавалі купіць ручную машынку для стрыжкі валасоў і акумулятар (батарэю) для радыёпрыёмніка «Піянер». Цана была даступная. Заплаціў я назначаную суму. Афіцэры падаліся да свайго цягніка. Батарэю для прыёмніка забраў швагер, а я машынку для стрыжкі. Праз некалькі мінут зайшлі іншыя афіцэры і загадалі вярнуць «ворованные вещи». Учыніўся закалот. Мы тлумачылі, што нічога не куплялі, вайскоўцы пачалі палохаць нас пісталетам. Удалося нам часова пасляць нахабнікаў у напрамку будынка дзяжурнага на пероне. У гэты час мы пагрузіліся на сані і мігам пагналіся ў напрамку Кузавы. З-заду чуваць было воклічы «Стой! Стрелять буду!».

Крадком азірнуўся я назад. Пагоні не было. З таго часу я стрымліваўся ад падобных гандлёвых здзелак.

*(працяг будзе)*

Уладзімір СІДАРУК





Марцін Звольскі і Люцына Юркевіч

# Пра жахлівае мінулае ў крынскай бібліятэцы

Складаную пасляваенную гісторыю Беластоцкага ваяводства разглядалі ўдзельнікі сакавіцкай вечарыны ў публічнай бібліятэцы ў Крынках. Перыяд трансфармацыі заўсёды вельмі цяжкі і балючы ці гэта ў палітычным, ці асабістым плане. Жахліва, калі на брата падымае руку брат. Так было семдзесят гадоў таму, але таксама ёсць і цяпер, у меншым ці ў большым маштабе. І самае страшнае, што распаўсюджанне такой тэмы ў грамадстве не з'яўляецца гарантам захавання стабільнасці ці бяспекі ў будучыні.

Арганізатарка спаткання дырэктарка бібліятэкі Люцына Юркевіч упэўненая, што трэба памятаць і прабачаць. Для яе сустрэча была таксама асаблівым ушанаваннем Дня выклятых жаўнераў, які адзначаецца 1 сакавіка.

«Праз гады акаўцаў называлі бандытамі, але ж яны таксама змагаліся за Польшчу, за сваю Польшчу, — заявіла дырэктарка бібліятэкі. — Іх збройная дзейнасць праходзіла ў 1943-1963 гадах. Менавіта ў кастрычніку 1963 г. на Люблінштчыне загінуў апошні жаўнер падполля Юзэф Франчак «Лялюсь». З атрадамі СБ змагаўся ён і ў падсакольскіх Краснянах. На сакольскім могільніку адрамантавалі ўжо магілы яго жаўнераў, забітых у сутычцы». Люцына Юркевіч заклікала прысутных да ўсебаковай праверкі змагароў за краіну. Перасцерагла таксама перад усякімі абагульненнямі і стыгматызацыяй кожнай з ваюючых старон.

Верныя чытачы заўсёды цікавяцца і падтрымліваюць ініцыятывы дырэктаркі бібліятэкі. У гэты раз справай пацікавіліся бургамістр Крынак Багуслаў Панасюк, старшыня Гмінай рады Аліцыя Трызна, а таксама краязнаўцы з Шудзялаўскай гміны. Складаную тэму асвятляў ім працаўнік Інстытута нацыянальнай памяці з Беластока Марцін Звольскі. Гаварыў ён пра ІНПаўскі праект, завяршэннем якога з'яўляецца выданне «Следам злачынстваў сталінскага перыяду ў Беластоцкім ваяводстве». «Пастулова пашыраецца колькасць інфармацыі пра крывавыя падзеі тых часоў, — сказаў ён, — але неабходна было заняцца пошукамі іх слядоў. Няма, у большасці выпадкаў, магіл ахвяр, няма і людзей. Але засталіся месцы». Марцін Звольскі асабіста даследаваў тэрыторыю Падляшскага ваяводства ў яго пасляваенных межах. Выявілася, што ўзброенае АК было тут асабліва актыўным. Захавалася таксама шмат месц, звязаных з рэпрэсіямі таго перыяду. Каб да іх дайсці, трэба было пашырыць веды пра падзеі, якіх яны былі нямымі сведкамі. Такім чынам удалося яму сабраць багатую дакументацыю, у асноўным справаздач і пасведчанняў не толькі ахвяр, але і катаў. Спадар Звольскі хваліецца пра лёс знойдзеных ім месц. Прыватныя ўласнікі рэдка ставяцца да такіх спраў з належнай пашанай. Бывае, што там, дзе калісь каталі людзей, сёння купляюць модную вопратку ці ядуць фастфуды.

Прысутныя не рашыліся на дыскусію з працаўніком ІНП. Іх цікавасць пра гістарычныя факты, кранаючыя родныя мясціны, таксама засталася не заспакоенай.

Усё-такі належным чынам ацанілі яны працу Марціна Звольскага. Прывезеныя ім кніжкі раскупляліся нарасхват. Іх можна было набыць па прамацыйнай цане і з аўтографам аўтара.

Удзельнікі спаткання маглі пазнаёміцца таксама з невялікай, тэматычнай выстаўкай аўтарства дырэктаркі бібліятэкі пра крынска-шудзялаўскі атрад АК пад камандаваннем «Богуна».

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




**http://werasen.wix.com/werasen_band**

Ва ўмовах татальнага выкаранення беларускай мовы з паўсядзённага ўжытку падаецца вельмі прыемным чыннікам наяўнасць музычных маладзёжных гуртоў, што выконваюць свае песні па-беларуску. Сваім існаваннем яны даюць надзею на тое, што беларуская мова не будзе, як за савецкім часам, мовай настаўнікаў-прадметнікаў, якія карыстаюцца ёю толькі на занятках, ці спосабам падачы рафінаванай інфармацыі ў праўрадавых радыё, тэлебачанні і нешматлікіх газетах. Але самае важнае тое, што песні па-беларуску не дазваляюць антыбеларускім і антыдэмакратычным сілам сцвярджаць, што беларуская мова — гэта мова толькі жменькі апазіцыянераў.

Музычны гурт „Верасень" — адзін з прыкладаў такога праяўлення яшчэ адносна жывой беларушчыны. Праўда, на ягоным сайце, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://werasen.wix.com/werasen_band, няма аніякіх заўваг на тэму „чаму вы пеяце па-беларуску". І гэта добра, бо наводзіць на думку, што для данага гурту спяваць па-беларуску ёсць натуральным.

Уласна сайт гурту даволі неардынарны. Пасярэдзіне цэлага выяўлення размешчаны фотаздымак членаў гурту — чатырох хлопцаў і адной дзяўчыны. Сайт не мае звычайнага дзялення на тры ці дзве часткі, але ёсць выйсці на рубрыкі. Цікава, што пры „кліканні" на іх большая частка карцінкі застаецца той жа самай, а ўласна іншыя старонкі адкрываюцца ў правай ніжняй частцы выяўлення.

„Мы — гурт „Верасень" з Мінска, Беларусь. У нашых песнях ёсць тое-сёе і ад рока, і ад блюза, і нават ад аўтарскай песні... Але музыку трэба граць, а не размаўляць пра яе. Чым мы і плануем заняцца — пры вашай падтрымцы. Вольга Акуліч і гурт „Верасень", — прадстаўляюць сябе „вераснёўцы" на галоўнай старонцы сайта, якая адначасова ёсць навіннай. Ніжэй за гэтую самапрэзентацыю месяцца паведамленні аб тым, што і калі павінна было адбывацца. Аднак, чамусьці цягам апошніх двух месяцаў у „Навінах" няма аніякіх абнаўленняў, і гэта наводзіць на думку аб тым, што з гуртом не ўсё добра, бо яны „закінулі" свой сайт.

Яшчэ адной больш-менш інфарматыўнай старонкай ёсць Media. Там ходзіць пра склад „Верасня", дзе, акрамя вышэйзгаданай Вольгі Акуліч, удзельнічаюць Арцём Лабін (гітара), Кірыл Раждзественскі (бас-гітара), Антон Ананіч (барабаны), Аляксей Кулеш (ударныя) і Дзяніс Балахонаў (гітара, губны гармонік). Праўда, калі Вольгу Акуліч лёгка пазнаць на фотаздымку, бо яна — адзіная дзяўчына, то хто кім ёсць з хлопцаў не пазнаеш, і подпісаў ніякіх няма.

„Стыль калектыву — бард-рок, поп-рок... Менш за ўсё мы дбаем пра вызначэнне стылю", — кажуць на данай старонцы „вераснёўцы", нечакана пераходзячы на англійскую мову „We play music. And it doesn't important how do they call our style" (Мы граем музыку. І няважна, як на самой справе называецца наш стыль).

Летась „Верасень" выпусціў новы альбом сваіх песень. Унізе цэлага выяўлення месціцца выяўленне CD-дыска і пазначэнне „Новы альбом «Караблі», якое ёсць гіперспасылкай на сайт Ultra-Music, дзе ў сакавіку 2013 года было размешчана інтэрв'ю з Вольгай Акуліч. З таго часу „верасёнўцы", па ўсім відаць, не стварылі аніякіх новых альбомаў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара



Фота з архіва Сяргея Чыгрына

Адраджэнец беларускага праваслаўя

## 105 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Асіпчыка

Беларускі грамадскі і царкоўны дзеяч Аляксандр Асіпчык нарадзіўся 1 красавіка 1909 г. у вёсцы Пляшкі на Слонімшчыне (з 1964 г. саветы перайменавалі яе ў Партызанаўку). У Першую сусветную вайну сям'я зазнала бежанства ў Астрахань. Неўзабаве памёр бацька і дзве сястры, Аляксандр застаўся з маці і яшчэ дзвюма сёстрамі. Старэйшая сястра выйшла замуж і засталася на чужыне. Пры вяртанні дамоў у Смаленску памерла і маці. Аляксандра з сястрой у 1922 г. прыняў Жыровіцкі прытулак. Адтуль іх перавялі ў Варшаву, а потым — у Чанстахову. Там дзяцей апранулі, кармілі і вучылі польскай мове. Летам Аляксандр Асіпчык трапіў у мястэчка Дварэц. У Дварцы адкрылі рамесніцкую школу, дзе Аляксандр вучыўся сталярству. А вясной 1930 г., атрымаўшы дыплом, юнак пайшоў у жыццё самастойна зарабляць на хлеб. Але хутка яго забіраюць у войска — у чацвёрты полк лётчыкаў у Торунь.

Пасля службы Асіпчык пэўны час жыў у Вільні, потым у Лідзе. А ў 1940 г. прыехаў на родную Слонімшчыну. Працаваў настаўнікам у вёсцы Акунінава. А за зробленыя грошы купіў у Слоніме пляц. І з роднай вёскі Пляшкі перавёз свой дом у горад.

У верасні 1941 г. нямецкімі ўладамі ў Слоніме была створана цывільная адміністрацыя. У Слоніме дзейнічала беларуская настаўніцкая семінарыя, прагімназія і дзве школы. Ужо ў 1942 г. у Слонімскай акрузе было адкрыта 217 беларускіх школ. Асіпчыку было даручана ў верасні 1942 г. адкрыць у Слоніме рамесную школу, дзе дзяўчат і хлопцаў вучылі кравецкай справе. Сам ён выкладаў гісторыю і геаграфію Беларусі. Асіпчык у акупаваным Слоніме штогод на 25 Сакавіка вывешваў бел-чырвона-белыя сцягі на брамах цэркваў і касцёлаў, на Народным доме, а на магіле палеглых жаўнераў Беларускай краёвай абароны паставіў крыж Ярылы. У 1942 г. ён прымаў удзел ва Усебеларускім царкоўным саборы, каб абвясціць незалежнасць Беларускай праваслаўнай царквы.

Пасля Другой сусветнай вайны Аляксандр Асіпчык быў змушаны эміграваць. Яго жонка Вера Селівончык, таксама беларуская патрыётка, засталася ў Слоніме і пазней зведала сталінскія рэпрэсіі. З мужам яны ніколі больш не пабачыліся, хоць кахалі адзін аднаго і ліставаліся.

У эміграцыі Асіпчык пражыў ажно 46 гадоў, але пра сваё жыццё на чужыне расказваць не любіў. У Германіі ён шмат працаваў фізічна, матэрыяльна падтрымліваў беларускіх скаўтаў у горадзе Рэгенсбург. 5 мая 1946 г. у Рэгенсбургу адбыўся Першы з'езд праваслаўных беларусаў з амерыканскай, англійскай і французскай зон Германіі. А праз год, у 1947 г., Аляксандр Асіпчык у Германіі арганізуе Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва.

У 1950 г. Асіпчык выехаў у ЗША, жыў у Нью-Йорку, потым у Таронта ў Канадзе, затым жыў і працаваў у Чыкага, Кліўлендзе, выдаваў на чужыне часопіс „Сіла веры" (1948-1965). Сам шмат друкаваўся пад рознымі псеўданімамі, ахвяраваў шмат грошай на беларускія справы. Апошнія гады жыцця правёў у горадзе Джэксан у штаце Нью-Йорк, дзе памёр 14 сакавіка 1990 г. Пахаваны на мясцовых могілках

Пра лёс Аляксандра Асіпчыка з дапамогай краязнаўца Аляксандра Талерчыка падрабязна напісаў у нядаўніх нумарах беластоцкага штомесячніка „Czasopis" слонімскі публіцыст Сяргей Чыгрын.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ксёндз Ежы Стэцкевіч

У лютым у Асяродку навуковых даследаванняў імя Войцеха Кентшынскага ў Ольштыне адбылося спатканне з ксяндзом Ежы Стэцкевічам з Калінінграда.

Ксёндз Ежы Стэцкевіч нарадзіўся 15 кастрычніка 1954 года ў Гродне. Два гады пазней яго ная сям'я пераехала ў Польшчу, у Шчэцінскае ваяводства. Пасля матуры паступіў ён у Духоўную семінарыю Гожаўскай дыяцэзіі ў Парадыжы. Пасля перайшоў у Духоўную семінарыю ў Шчэцін, якую завяршыў у 1981 годзе. Штудзіраваў таксама ў Каталіцкай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Служыў вікарыем у Дэмбне-Любушскім і Навагардзе, працаваў у Дыяцэзіяльным выдавецтве ў Камені-Паморскім. З 1991 года служыць пастырам католікам Калінінградскай акругі. Супрацоўнічае таксама з філіяй маскоўскай Каталіцкай калегіі імя Фамы Аквінскага ў Калінінградзе ды кіруе мясцовым аддзелам Карытас-Захад.

— У Калінінградскай акрузе, — сказаў мне ксёндз Ежы, — зараз служыць трох ксяндзоў; апрача мяне яшчэ кс. Станіслаў Горгал у Мамонаве і кс. Чэслаў Козел у Чарняхоўску. Ёсць і дзве манашкі. Я трапіў сюды, бо стараўся на службу ў Гродна, але архіпастыр накіраваў мяне ў Калінінград. Гэта месца, у цэнтры Еўропы, адпаведнае для культу святога Войцеха-Адальберта. Калегія імя Фамы Аквінскага адукуе нашых будучых святароў; зараз займаецца ў ёй каля васьмідзесяці асоб. Шмат часу займае мне харытатыўная дзейнасць. Вядзем сталовую для найбяднейшых, раздаем вопратку, вядзем стаматалагічную амбулаторыю для калекіх дзяцей. Атрымліваем дары з Германіі, Францыі, Даніі і Польшчы. Гэта ўсё дзелім так, як размеркавана людская бяда, усім патрабуючым, не зважаючы на веравызнанне. Нашы людзі шторaз больш хіляцца да Бога, найбольш нашых вернікаў складаюць палякі і літоўцы, але ёсць і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей.

Пачаткі душпастырскай працы ксяндза Стэцкевіча былі складаныя — трэба было шукаць католікаў па ўсёй Калінінградскай акрузе; ездзіў ён на сваёй легкавушцы з літоўскім ксяндзом, які жыў у Калінінградзе раней. У 1992 годзе атрымалі яны самаход з прычэпам, у якім наладзілі мабільную капліцу. Часта стаўлялі машыну ў цэнтры горада, пад помнікам Леніну, што выклікала дадатковае зацікаўленне. Давалі аб'явы ў сродках масавай інфармацыі. Першыя службы адпраўлялі ў аздобленых абразамі прыватных кватэрах, гімнастычных залах, дзіцячых садках; лік вернікаў пастаянна рос. Калінінградская акруга лічылася раней рэлігійнай пустыняй, але людзі патрабавалі малітвы. Дзеля ўздзелу ў набажэнствах, шлюбаў ці хрысцін, тамашнія каталікі былі ездзілі найчасцей у Вільню. Ксёндз Ежы спадзяваўся, што каталіцкая абшчына Калінінграда атрымае былы каталіцкі касцёл Святога Сямейства, які займае тамашняя філармонія. Калі гэта не ўдалося, збудавалі ўласны касцёл...

Асяродак навуковых даследаванняў імя Войцеха Кентшынскага ў Ольштыне ўзнагароджвае медалямі імя Ігнацы Красіцкага найбольш заслужаных для мясцовай культуры людзей. Сёлета такі медаль атрымаў ксёндз Ежы Стэцкевіч за ягоную грамадскую, асабліва гуманітарную, дзейнасць у Калінінградскай акрузе. Пры нагодзе сустрэчы ксёндз Ежы прамаваў сваю кніжку „Kościół katolicki w Obwodzie Kaliningradzkim 1945-2009”.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**






# Найлепшыя скульптары

У першы дзень вясны, 21 сакавіка гэтага года, у самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) адбыўся VIII Адкрыты скульптурны конкурс. Тэмай яго былі „Расліны з лугоў, палёў і лясоў”. У конкурсе ўдзельнічалі дашкольнікі і вучні пачатковых школ з Нараўкі і Чыжоў, вучні сярэдніх школ і дарослыя асобы. Скульптуры выконвалі з гліны, якой поўна ў ляўкоўскім наваколлі.





Працы ацэньвала журы, у складзе якога былі Ядвіга Карпюк, Іаанна Белавежац і супрацоўнік „Нівы” Янка Целушэцкі.

І так, у катэгорыі дашкольнікаў першае месца заняла Малгося Вітомская, а другое — Павел Паскробка.

Найбольш было ўдзельнікаў з групы вучняў IV-VI класаў пачатковай школы. Першае раўнапраўнае месца занялі Караліна Каравай і Крыстына Леўша, другое раўнапраўнае месца — Мартына Белавежац, Марцін Аляксяюк і Аляксандра Куптэль ды трэцяе раўнапраўнае — Малгося Варанецкая, Оля Міхалюк і Клаўдзія Нікалаюк. Вылучэнне атрымала васемнаццаць асоб.

У катэгорыі вучняў сярэдніх школ найлепш сябе адрэкамендавалі Эва Саковіч і Паўліна Драўноўская — яны занялі першае раўнапраўнае месца. Паўліна Драўноўская ўдзельнічала і ў папярэдніх скульптурных конкурсах у Ляўкове, а ў 2009 годзе заняла чацвёртае месца.

У групе дарослых асоб журы прызначыла ўзнагароды Іаанне Зубрыцкай (першае месца), Барбары Вітомскай (другое месца) і Тэрэсе Саковіч (трэцяе месца).

Падчас конкурсу панавала прыемная атмасфера. Нараўчанскія і ляўкоўскія вучні ахвотна знаёміліся з аднагодкамі з Чыжоў. Праца ўсім ішла спорна. Скульптары-аматары выконвалі самыя прыгожыя кветкі і лісточкі. Гэта выклікала ў іх вялікую фантазію. Чаго толькі яны не прыдумалі! Якія формы!

Удзельнікі былі задаволены рэчавымі ўзнагародамі, пра якія паклапацілася дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент. У падрыхтоўцы і ў ходзе конкурсу шмат працавалі Крыстына Паскробка (кіраўнічка старaляўкоўскай святліцы), Вольга Максімюк (інструктар мастацтва) і Аліна Барташук (кіраўнічка мясцовай бібліятэкі).

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка

1. народны паэт, якога вершы становяцца песнямі, 2. полацкая рака, 3. горад на Эбра між Барселонай і Мадрыдам, 4. напеў, 5. цёплае пасцельнае накрывала, 6. шавецкая прылада, якую не ўдаецца схаваць у мяшок, 7. напрамак дзейнасці, інтарэсаў, спецыялізацыі, 8. грашовая адзінка Славакіі, 9. караняплод з карацінам, 10. шум і крык у шклянцы вады.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Сто, фальш, чай, мыс, амбон, тымпан, боль, кулеш, чорт, шапка, мыш, пух.

Рашэнне: **Чым больш маеш, тым больш хочаш**.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | |
| | | 2 | | | | | | | 3 | |
| | | 4 | | | | | | | | |
| | 5 | | | | 6 | 7 | | | 8 | |
| | | | | | 9 | | | | | 10 |

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 06.04 — 12.04

**(22.03. — 20.04.)** Адкрыюцца ў табе новыя таленты. Ад 7.04. будзеш у выдатным настроі, лады дома, новыя цікавыя знаёмствы, прыемныя падарожжы. Але ў красавіку прафесійныя справы не будуць тваім наймацнейшым бокам; не вырашай важнага. Ад 10.04. магчымыя праблемы ў кампанейскіх адносінах.

**(21.04. — 21.05.)** Дзве першыя дэкады месяца будзеш у цудоўным настроі, поўны энергіі і жыццёвай сілы. І на працы, і ў фінансах — усё ўдасца, да чаго дакранешся. Прыпыні свае ўладныя памкненні. Не маніпулюй у пары (увесь месяц будзе табе штосьці «муляць»). 5-10.04. магчымы вострыя канфлікт з бацькамі і раднёй.

**(22.05. — 22.06.)** Добры час на інвестыцыі, будаванне сувязей. Знакаміта ў пачуццях, эмоцыі сягнуць зеніту (найлепшы час у гэтым плане — 7-23.04.). Але красавік прынясе прастуды, болі галавы ці зубоў; пі вітамін С, не цалуйся з прастуджанымі, трымайся здалёк ад вострых прылад (асабліва ў першай палове месяца).

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш пільны і паспяховы — пастарайся гэта выкарыстаць! Шчаслівыя выпадкі, асабліва на рандэву — можаш падчапіць кагосьці, хто табе здаўна падабаецца! Матывіруючыя сяброўствы; сябры і калегіададуць табе духу, заінспіруюць да больш радыкальных прыёмаў. Добры час на дыету. Ашаламляльны рух у інтарэсах, будзеш моцны і кампетэнтны!

**(24.07. — 23.08.)** Красавік — час незвычайных поспехаў на працы. Адважна стаўся да новых задач. Добрае здароўе (пільнуйся толькі з ежай), можаш пазбыцца кепскіх звычак. Дома падтрымка і спакой. 9-13.04. здзівіш усіх сваёй умеласцю кампрамісных прыёмаў. 6-10.04. цікуе небяспека, пазбягай рызыкі, зашпіляй рамяні ў аўто.

**(24.08. — 23.09.)** Мноства новых задум. З 7 да 23.04. будзеш моцны і паспяховы, энтузіязмам заразіш кожнага. Добра прыглядзься ладам у сваёй пары, ёсць час паправіць адносіны. Не будзь лішне талерантным для сяброў. Змены ў сям'і і дома абернуцца к дабру. З кожным днём шторaз лепш у тваім здароўі. На працы пастаў на супрацоўніцтва.

**(24.09. — 23.10.)** Будзь трывалым у змаганні за новае пачуццё. Будзь ініцыятыўны, трапіш у «10»! Ад 7 (аж да 23.04.) будзеш дагаворвацца шторaз лепш у пары. Гарманічныя стасункі з суседзямі, раднёй. Добры час заняцца здароўем (не адкладвай «паходаў» па дактарах), дыетай, выглядам. Варушыся! Салідна працуй — высілак прынясе відныя здабыткі, саюзнікаў і прамотараў для тваіх задум. Але 10-14.04. не ўсё прымай за ілюзорную «добрую манету».

**(24.10. — 22.11.)** Час на відныя змены. Вытрымай напругу, а дасягнеш поспеху. Час рамантычных сустрэч і любоўных захапленняў (10-14.04. — найлепшы час для трапных стрэлаў Амура!). У сям'і ўмела і дыпламатычна паставіш на сваім. Але будзеш прыцягваць ныцікаў, якія адно наракаюць і нічога не робяць, каб паправіць свой лёс. Сустракайся з вясёлымі, ініцыятыўнымі, працавітымі. Сядзь на паспяховую дыету з 7.04. — аж да 23.04. — пераменіш спосаб харчавання.

**(23.11. — 22.12.)** Дацэніш цяпло хатняга агменю і створыш у ім прытулак для свайго кахання. Жанатыя і замужнія Стральцы пакажуць, як вельмі цэняць традыцыю, супольнасць. Для сям'і будзеш як мёд. У пары ідылія. Хаця будзеш падатлівы на меланхолію. Добрая памяць, умеласць трапных высноў.

**(23.12. — 20.01.)** Аж да 23.04. маеш гарантаваны фантастычны настрой. Каханне прывітаеш з адкрытымі рукамі. У красавіку магчымае парванне кантактаў з некаторымі знаёмымі. Не шаржуй са здароўем, і забудзеш аб лекарах. Але калі будзеш увесь час падвяргаць сваё здароўе рызыцы і вынішчанню, узбунтуецца! Кінь кепскія звычкі, не еж лішне тлустага і вугляводнага, вярніся да натуральных смакаў.

**(21.01. — 19.02.)** Час буры, час сонца — вучыся разумных кампрамісаў. Добры час для заказаных. Адкрыты дом, дынамічныя кантакты з суседзямі і сваякамі. Старайся не пераборшчваць у гасцяванні. Бесперапынны фінансавы ўздым увесь месяц, а 10-14.04. можаш добра выдаць грошы.

**(20.02. — 21.03.)** Шанц на пагашэнне старых канфліктаў. Добра разам, добра і аднаму. Можаш разлічваць на сяброў. Зайдзі да стаматолага, нават калі не баляць табе зубы. Звярні ўвагу і на галаўныя болі (будуць цябе турбаваць у красавіку). На працы і ў фінансах «усё іграе», не бойся за сваю пазіцыю. Нават калі крыху страціш, усё выраўняецца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Беларускі дух над КУЗНІЦАЙ


Янка Карповіч з хлопцамі з «Dead Insemination»


Алег Латышонак


Уладзімір Хільмановіч


„Людзі на балоце”

**Гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ў незвычайнай рок-металёвай аранжыроўцы і выкананні міхалоўскай групы «Dead Insemination», канцэрт легендарнага ўжо гурту «Людзі на балоце» з Гродна і гродзенскага праваабаронцы і журналіста, тут у ролі барда, Уладзіміра Хільмановіча ды Калакольчыка, то-бок, Янкі Карповіча з Гарадка з хлопцамі з «Dead Insemination» у розных музычных ролях — вось гэта толькі некаторыя з атракцыёнаў, якія склаліся на амаль пяцігадзіннае святкаванне Дня Волі ў Кузніцы-Беластоцкай. Сарганізаваны тут былі ўпершыню — ва ўрачыстай і кранальнай, але і нязмушанай і камернай атмасферы. Над святкаваннем лунаў дух народжанага ў Кузніцы прэм'ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі Язэпа Варонкі.**

Ініцыятарам святкавання Дня Волі ў гэтым памежным мястэчку было Згуртаванне па захаванні культурнай спадчыны Сакольшчыны «Sakolszczyzna» і яго старшыня Андрэй Гарбуз, але, перш за ўсё, звязаная са Згуртаваннем Уршуля Шубзда, маладая журналістка Радыё Рацыя і „Нівы”.

Андрэй Гарбуз:

— На вэб-старонцы isokolka.eu была заяўка, што будзе гэтае свята. І зараз паявіліся каменты: а нашто з Кузніцы рабіць якоесь беларускае асяроддзе, калі тут польскія патрыёты былі ад заўсёды? Я не ведаю, ці ў самой Кузніцы ёсць яшчэ прозвішчы Варонка, але непадалёк па вёсках, едучы на Сідру, ёсць іх нават нямала. Цікава, калі знойдзецца якаясь сям'я прэм'ера? Можа быць, нехта нешта ведае, але як дасюль не прызнаецца. У свядомасці тутэйшых, аднак, паявілася ў апошнія гады, што на гэтай тэрыторыі нешта з беларушчынай было звязана. Толькі тое, што людзі гавораць па хатах па-свойму, не асацыюецца ў іх з беларушчынай. Некаторым з іх можа нават здаецца, што ва ўсім свеце так па вёсках гавораць.

У Гмінны цэнтр культуры і адпачынку прыйшло няшмат мясцовых жыхароў. Сярод іх быў і спадар Адам. Ён не выключае, што сямейныя повязі аб'ядноўваюць яго з Язэпам Варонкам:

— Мае сваякі маюць прозвішча Варонка. У Ахрымаўцах жывуць, — неахвотна, аднак, удаваўся ў падрабязнасці.

Валянцін Гічан з Сынкоўцаў даведаўся аб свяце з «Нівы» і рэгіянальнага тэлебачання:

— Да гэтага часу тут ніхто не ведаў аб гэтым свяце. Я кожны год прыгадваю аб ім з «Нівы». Гэта важнае свята, таму што, хоць нядоўга, але быў той кавалак часу свабоднай Беларусі. Тут, на Сакольшчыне, пакуль старыя яшчэ жывыя і гавораць па-свойму, беларускасць тут будзе. Маладыя, як мы кажам па-свойму, разумеюць, але не гавораць.

У святкаванні Дня Волі з цікавасцю ўдзельнічаў войт Кузніцы-Беластоцкай Ян Квяткоўскі:

— Святы з нагоды 3 мая, 11 лістапада або 15 жніўня святкуюцца ў нас урачыста. Гарцэры, мясцовыя арганізацыі і касцёл ахвотна ўключаюцца. Але такога тыпу свята яшчэ не было. Я не гісторык, таму я не буду выказвацца пра дэталі. Калі б спадар Сычэўскі прывёз беларускія калектывы ці каб на Дні Кузніцы прыехалі «Прымакі», гэта людзям вельмі спадабалася б.

Мы спыталіся ў войта пра магчымасць увекавечання Язэпа Варонкі ў Кузніцы (устанаўленне мемарыяльнай табліцы або збудаванне яму помніка):

— Я не гісторык і на гэтую тэму не буду выказвацца. Мабыць, пасля гэтай падзеі буду ведаць больш.

Войту і іншым удзельнікам аб першым прэм'еры БНР расказаў гісторык з Універсітэта ў Беластоку прафесар Алег Латышонак, адзначыўшы, у прыватнасці, нядаўнае абнародаванне месца нараджэння Варонкі Тамашом Блашчакам («Ніва» ад 25 сакавіка 2014 г.). Перад выступам прафесар Латышонак заўважыў:

— Кузніца вельмі важная з пункту гледжання беларусаў. Нарадзіўся тут яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя Міхал Каяловіч, выдатны праваслаўны дзеяч, прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі, публіцыст, гісторык. І, як нядаўна аказалася, тут таксама прыйшоў у свет першы прэм'ер першага незалежнага ўрада Беларусі. Ён быў не толькі прэм'ерміністрам, але і першым міністрам замежных спраў. Кузніца можа пахваліцца тым, што мае такіх вядомых беларусаў, і што так ёй пашанцавала. Быў час, што Сакольшчына зусім прапала з беларускага поля зроку, а тут аказваецца, што людзі вяртаюцца да беларускіх каранёў: і праваслаўныя, і каталікі. Я спадзяюся, што тут гэты працэс будзе развівацца.

Падчас лекцыі падвёў:

— Язэпа Варонку задачы перараслі, але з чыстым сумленнем можна сказаць, што перараслі яны кожнага беларускага палітыка ў той час. Ён кіраваў у самы важны перыяд стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Можна яго, без перабольшання, прылічыць да «стваральнікаў ідэі беларускай дзяржаўнасці» (...). Улічваючы яго малады ўзрост і адсутнасць вопыту, калі ён уступіў на пасаду прэм'ер-міністра, было б справядліва сказаць, што выдатна справіўся з тонкасцямі палітыкі. У іншы час і пры іншых абставінах, без сумневу, вырас бы на сапраўднага дзяржаўнага дзеяча.

У рамках святкавання Дня Волі ў Кузніцы выступіла гайнаўская моладзь са спектаклем «Не пашанцавала» на матывах твораў Сакарата Яновіча пад кіраўніцтвам Іаанны Стэльмашук-Троц. Акустычным канцэртам беларускіх песень захапіў Калакольчык, значыць, Янка Карповіч (вядомы таксама з капэлы «Хутар»), які выступіў пад акампанемент уласнай гітары ды сола-гітары (Павел Азябла), бас-гітары (Рыгор Карповіч) і барабанаў (Пётр Азябла):

— Я зрабіў з хлопцамі ў гэтым годзе такі малы праекцік пад Дзень Волі. Мы падрыхтавалі некалькі песень, такіх больш патрыятычных.

Павел Азябла, раней адзін з выканаўцаў рок-металёвага гімна, падзяліўся з «Нівай»:

— Для групы «Dead Insemination» гэтае выступленне — нешта новае. Гімн з металёвай музыкай спецыяльна падрыхтавалі мы для гэтага выпадку, і асабліва ў такой сучаснай апрацоўцы, каб перадача была мацнейшая.

Уладзімір Хільмановіч з Гродна ў сваю чаргу свой міні-канцэрт пачаў з песні на словы Андрэя Макарэвіча, прысвечанай Алесю Бяляцкаму, зняволенаму ў Беларусі прэзідэнту Праваабарончага цэнтра «Вясна»

— Для ўсіх беларусаў Дзень Волі з'яўляецца самым вялікім святам і цудоўна, што Кузніца-Беластоцкая на карце гэтага свята заняла пачэснае месца. Яшчэ больш важна, што толькі нядаўна даведаліся, што тут нарадзіўся Язэп Варонка. Кузніца можа ганарыцца сваім земляком. Тут, на памежжы, амаль з кожнай мясцовасці выводзяцца людзі значныя для беларушчыны. І цяпер яшчэ і ў Кузніцы, я спадзяюся, ствараецца пэўная традыцыя, звязаная з беларушчынай.

Сярод удзельнікаў свята прысутнічаў таксама пісьменнік і журналіст з Гродна Віктар Сазонаў:

— Хацелася б, каб часцей такія падзеі мелі месца і на нашым баку мяжы. На жаль, іх разбіваюць. Добра, што прынамсі ёсць тут, і я ведаю, што за святкаванне не будзе ніякага пакарання. Інфармацыя пра фэст тут у Кузніцы дайшла ў Гародню, у прыватнасці праз Радыё Рацыя, і важна што людзі ў нас ведаюць, што Дзень Волі адзначаецца ва ўсім свеце.

Акустычны фольк-гурт «Людзі на балоце» з Гродна паявіўся на свяце ў Кузніцы зусім нечакана, па дарозе на канцэрт з нагоды Дня Волі ў Варшаве на наступны дзень. Яны выканалі свае старыя, больш знаёмыя песні: лірычныя, філасофскія. Перад канцэртам фронтмен групы Алесь Дзянісаў сказаў «Ніве»:

— У Беларусі аб Язэпе Варонку і Дні Волі, той, хто хоча, ведае. У нас улада лічыць сябе нашчадкамі бальшавікоў. Калі я яшчэ вучыўся ў школе, БНР была прадстаўлена як «ані ваша, ані наша», як непатрэбная. Сёння прадстаўляюць яе з яшчэ большым скептыцызмам і варожасцю.

А падчас канцэрту прызнаўся:

— Я не люблю ўсіх гэтых партый і палітыкаў. Я анархіст. Анархія не можа быць ідэалагічнай, але ад душы і заўсёды існавала ў Беларусі, калі людзі гаварылі, што для іх важнейшыя іх дом або вуліца.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

ISSN 0546-1960